

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 31 сакавіка 1989 г. № 13 (3475) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**





## МУЗЫКА XX СТАГОДДЗЯ

Прыпыніце крок ля афіш «Мінскай вясны»: цэлы тузін канцэртаў. Быць не можа, каб ніводзін з іх вас не прывабіў!

Не кідайце таропкі скептычны позірк у бок рэкламных шчытоў: вясновы музычны фестываль — сёлета ўжо шосты — абяцае абнаўленне ўражанняў. У яго праграмах — музыка XX стагоддзя. Імёны класікаў нашай эпохі, проста вядомых кампазітараў і аўтараў-пачаткоўцаў. Акадэмічныя музычныя калектывы, майстры мастацтваў, выканаўцы-дэбютанты і маладыя творчыя супольнасці. Розныя жанры, розныя стылі...

Прыгледзьцеся да фестывальнай праграмы — і ваш густ, ваш эстэтычны вопыт, нарэшце, ваш настрой дапамогуць у выбары.

Можа, варта завітаць у Беларускую дзяржаўную філармонію 3 красавіка, на адкрыццё фестывалю? Будзе вечар прэм'ер: новая сімфонія Ф. Пыталева, прысвечаная памяці ахвяр сталінізму, Канцэрт для двух фартэпіяна Г. Вагнера, Пятая сімфонія нашага госця А. Эшпая, які, мяркуецца, скажа ўступнае слова — перад канцэртам, перад пачаткам свята.

Можа, вам даспадобы песенны жанр? Будзе вялікі аўтарскі вечар «Песня — наш лёс». Удзельнікі — кампазітары А. Пахмутава і І. Лучанок, паэты Н. Гілевіч і М. Дабранраваў, папулярныя выканаўцы.

Яшчэ адзін аўтарскі вечар падорыць сустрэчу з музыкай А. Шнітке.

У сімфанічных канцэртах і ў камернай зале на Залатой Горцы будуць гучаць (для нас многія ўпершыню) сусветна вядомыя творы Д. Шастаковіча, С. Пракоф'ева, Д. Гершвіна, А. Копленда, Б. Брытэна, А. Месіяна, Э. Паскаля. Будзе гучаць сучасная музыка Літвы...

Але ж «Мінская вясна» слушна завецца фестывалем прэм'ер беларускай музыкі. Цяжка тут пералічыць усе навінкі, з якімі могуць пазнаёміцца слухачы. Кантата У. Кандрусевіча на вершы Г. Бураўкіна «Аблачынка з Чарнобыля», канцэрт-фесрыя Л. Шлег «Юр'еў дзень» для англійскага ражка з аркестрам, Варыяцыі на тэму Моцарта для фартэпіяннага трыо А. Залётнева, Скрыпічны канцэрт Д. Яўтуховіча; харавыя творы А. Мдзівані. А. Хадоскі; кампазіцыі для духавых інструментаў У. Дамарацкага, С. Янковіча; камерная музыка Г. Гарэлавай, А. Шушкевіч, Л. Сімаковіч, С. Бельцюкова, Я. Паплаўскага, А. Літвіноўскага... Пад час фестывалю чакаецца і прэм'ера оперы У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха».

Пераважаюць, як бачыце, кампазітары новага пакалення. Хіба гэта не зацікавіць тых, хто любіць адкрываць для сябе незнаёмыя імёны?

Вялікая праграма вымагае і шматлікіх разнайтых выканаўчых сіл. Масцітая шырмаўская капэла і толькі-толькі створаны Дзяржаўны камерны хор БССР; Сімфанічны аркестр Літоўскай ССР і аркестры беларускія; малады мінскі духавы квінтэт і спрактыкаваныя салісты-інструменталісты; дырыжоры Ю. Яфімаў, В. Катаеў, В. Палянскі, М. Фінберг, Ф. Глушчанка; хормайстры Л. Яфімава, І. Мацюхоў...

Хвалююцца выканаўцы, аўтары, арганізатары фестывалю. Чакаюць, нібыта першага спаткання, *сустрэчы з публікай*. Бо які разнастайны і вытанчаны ні быў бы рэпертуар, якое высокае ні было б майстэрства і натхненне музыкантаў, жыццё і поспех іхняга мастацтва — даткліваrа, эфемернага — залежыць, у рэшце рэшт, ад людзей, што прыходзяць у залу.

Не абмінайце фестывальную афішу. Рабіце свой выбар, прыходзьце.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

## *У Цэнтральным Камітэце КПБ і Савеце Міністраў БССР*

## Аб мерах па паляпшэнню экалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы

ЦК Кампартыі Беларусі і Савет Міністраў БССР разгледзелі пытанне «Аб мерах па паляпшэнню экалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы». Прынятай пастановай адобраны ў асноўным распрацаваны Дзяржпланам БССР, Дзяржкампрыродай БССР, Акадэміяй навук БССР, Міністэрствам аховы здароўя БССР і Белгідраметам праект Асноўных напрамкаў аздараўлення і аховы навакольнага асяроддзя, рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Беларускай ССР на 1991—1995 гг. і на перспектыву да 2000 года. Праект вырашана ўнесці на абмеркаванне грамадскасці рэспублікі ў красавіку — маі 1989 г.

У мэтах паляпшэння арганізацыі праводзімай у рэспубліцы работы па вывучэнню і практычнаму вырашэнню праблем прыродакарыстання і аховы навакольнага асяроддзя ўтворана Камісія ЦК Кампартыі Беларусі і Савета Міністраў БССР па пытаннях экалогіі ў саставе тт. Кавалёва М. В. (старшыня камісіі), Хусаінава Ю. М. і Трутнева А. І. (намеснікі старшыні), Азаранкі Ф. С., Арцымені Д. К., Бародзіча У. І., Бураўкіна Г. М., Бурскага В. І., Бур'яка В. М., Грахоўскага А. А., Грышагіна А. Л., Дзямянцея М. І., Зуева А. Б., Кічкайлы А. Т., Каваленкі Г. Г., Казлова В. А., Карніевіча М. Ф., Кулакова У. П., Ляпёшкіна У. А., Ліштвана І. І., Лабанава С. М., Міхасёва У. І., Наготкі Э. І., Платонава К. М., Пакумейкі Ю. М., Пуплікава Ю. А., Рачэўскага А. Н., Роша М. І., Рудневай С. П., Сухарукава Я. Ф., Цецерука У. Р., Цішкевіча А. І., Толкача Л. К., Хартановіча Г. М., Якавенкі В. Ц.

Камісіі даручана з улікам вынікаў грамадскага абмеркавання Асноўных напрамкаў арганізаваць распрацоўку ў 1989 годзе Рэспубліканскай комплекснай праграмы аховы навакольнага асяроддзя на 1991—1995 гг. і на перспектыву да 2000 года і ўнесці яе ў ЦК Кампартыі Беларусі і Савет Міністраў БССР. Прызнана неабходным распрацаваць адпаведныя абласныя, гарадскія і галіновыя праграмы, а таксама праграмы «Экалогія» на кожным прадпрыемстве, у арганізацыі, калгасе і дзяржгасе.

**Праект Асноўных напрамкаў аздараўлення і аховы навакольнага асяроддзя, рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Беларускай ССР на 1991—1995 гады і на перспектыву да 2000 года надрукаваны ў штодзённых газетах 28 сакавіка.**

## Сустрэча ў ЦК КПСС

**29 сакавіка ў Цэнтральным Камітэце КПСС Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў сустрэўся з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і выступіў перад імі па пытаннях, звязаных з вынікамі сакавіцкага (1989 г.) Пленума ЦК КПСС і выбарчай кампаніі.**

**У сустрэчы прынялі ўдзел таварышы Лігачоў Я. К., Мядзведзеў В. А., Разумоўскі Г. П.**

**ТАСС.**

## *Памяці Кастуся Каліноўскага*

**Споўнілася 125 гадоў ад таго дня, калі на мураўёўскай шыбеніцы абарвалася жыццё слаўнага сына нашай зямлі, рэвалюцыянера-дэмакрата і публіцыста. Дату гэтую адзначылі ў Вільнюсе і ў Мінску. Арганізатарам мітынгу ў сталіцы Літвы (ён адбыўся 18 сакавіка) выступіла віленскае беларускае таварыства «Сябрына». Яго ўдзельнікамі, акрамя віленцаў, была вялікая група гасцей з Мінска. На былым Лукішскім пляцы каля сімвалічнага надмагілля К. Каліноўскага і З. Серакоўскага сабралася некалькі сотэнь чалавек. Выступаючыя гаварылі аб братэрстве беларускага і літоўскага народаў, замацаваным крывёю, пралітай у барацьбе за свабоду. Прыгадваліся імёны беларусаў, што змагаліся за незалежнасць Літоўскай рэспублікі, удзельнічалі ў культурным і навуковым жыцці даваеннай Літвы. На сімвалічнае надмагілле К. Каліноўскага і З. Серакоўскага былі ўскладзены кветкі і вянок.**

**22 красавіка мноства мінчан сабралася на вуліцы Каліноўскага каля кінатэатра «Вільнюс», на фасадзе якога ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць народнага героя. Тут адбыўся мітынг. На ім выступілі навукоўцы, пісьменнікі, прадстаўнікі іншых прафесій. Былі зачытаны ўрыўкі з «Мужыцкай праўды», з перадсмяротнага ліста Кастуся да беларускага народа. Выступаючыя гаварылі пра значэнне паўстання 1863 года і жыццёвага подзвігу Каліноўскага для абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў, пра неабходнасць ушанаваць памяць вялікага рэвалюцыянера вартым помнікам. Сродкі на помнік збіраліся тут жа на мітынгу.**

**А. Петрашкевіч паведаміў, што выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя»» будзе рыхтаваць энцыклапедычны даведнік «Кастусь Каліноўскі» па аналогіі з купалаўскім і скарынаўскім. Прагучала прапанова даць новую назву станцыі метро «Усход» —«Вуліца Каліноўскага».**

**Удзельнікі мітынгу ўшанавалі памяць Кастуся хвілінай маўчання. Да мемарыяльнай дошкі былі ўскладзены кветкі.**

**Наш кар.**

## Свята «Вясёлкі»— свята дзятвы



**Стала добрай традыцыяй: у вясновыя канікулы, на свята кнігі віншаваць лаўрэатаў прэміі часопіса «Вясёлка». 24 сакавіка ў Доме літаратара адбылася сустрэча вучняў малодшых класаў мінскіх школ з лаўрэатамі прэміі часопіса «Вясёлка» за мінулы год. На гэты раз імі сталі пісьменнік Уладзімір Паўлаў, паэт Анатоль Грачанікаў і мастачка Таццяна Беразенская.**

**Уладзімір Паўлаў расказаў, як піша творы для дзяцей, прачытаў новыя вершы, загадкі.**

**З цікавасцю слухалі дзеці вершы Анатоля Грачанікава, якія друкаваліся на старонках «Вясёлкі».**

**Таццяна Беразенская ўспомніла пра пачатак свайго творчага шляху, расказала пра тое, як цікава маляваць жывёльны свет.**

**Свае вершы прачыталі паэты Мікола Маляўка і Мікола Чарняўскі.**

**На вясёлкаўскім свяце выступіў фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Сонейка» школы № 3 г. Мінска.**

**Тэкст і фота Я. ЛАРЧАНКІ.**

«сваіх» людзей. Вось толькі пытанне: ці законна гэта?

**...26 сакавіка ў 8 гадзін вечара я прыйшоў на выбарчы ўчастак № 117-51 акурат да пачатку падліку галасоў. Нас, «наглядальнікаў» — прадстаўнікоў працоўных калектываў і друку, — сабралася чалавек шэсцьсем.**

**Убаку ад стала, за якім сядзелі члены выбарчай камісіі, нам паставілі некальні крэслаў, і мы пачалі сачыць за працэдурай падліку галасоў. Мае асабістыя ўражанні? Усё рабілася дакладна, па інструкцыі. Ва ўсіх на вачах былі пагашаны рэзервныя, а таксама нявыкарыстаныя бюлетэні, якія засталіся пасля галасавання. І адзін, і другі пачак старшыня камісіі перавязаў шпагатам і на кожным з іх паставіў сургучную пячатку.**

**Пачынаецца падлік галасоў. Па Мінскай—Першамайскай нацыянальна-тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 66 балаціраваўся акадэмік У. Лабуноў, па Мінскай—Савецкай тэрытарыяльнай акрузе — прафесар А. Жураўлёў, галоўны ўрач 1-й клінічнай бальніцы У. Палішчук і загадчык кафедры Вышэйшай школы міліцыі М. Порубаў.**

**На стол кладуцца сінія бюлетэні з прозвішчам адзінага кандыдата У. Лабунова. Старшыня ўчастковай камісіі А. Дзевяты раздае іх кожнаму з 16-ці членаў камісіі. Спачатку яны лічаць, колькі галасоў пададзена супраць кандыдата, потым — колькі за. Праз гадзіну вынік гатовы — большасць за У. Лабунова.**

**Потым пачынаецца падлік галасоў, пададзеных за іншых трох кандыдатаў. Тут патрэбнай колькасці галасоў ніхто не набраў...**

***Калі пісаліся гэтыя нататкі,* канчатковыя вынікі выбараў народных дэпутатаў па рэспубліцы яшчэ не былі апублікаваны. Што тычыцца г. Мінска, дык тут з васьмі дэпутацкіх мандатаў заваявана толькі тры. Народнымі дэпутатамі сталі акадэмік АН БССР У. Лабуноў, токар-расточнік Мінскага маторнага завода Л. Дзюсаў і дырэктар завода буйнапанельнага домабудавання Р. Падбярэзскі.**

НАЗАПАШАНЫ палітычны вопыт выбарчай кампаніі будзе абагульнены і асэнсаваны. Галоўнае, мы сталі сведкамі і ўдзельнікамі вялікай падзеі — выбараў з выбарам. А гэта сапраўдная гарантыя таго, што перабудову не спыніць.

**М. ЗАМСКІ.**

**У. Шчасны:** — Узнікае і такое пытанне да заснавальнікаў ідэі-конкурсу «парку цудаў»: для каго гэты «дыснэй-лэнд» будуецца?

**В. Зуйкоў:** — Як для каго? Вядома, для мінчан, жыхароў Ракава і Валожына, для дзяцей і дарослых...

**У. Шчасны:** — Вы ўпэўнены, што бацькі з дзецьмі ў студзені, лютым, сакавіку будуць ездзіць забаўляцца за сорак кіламетраў? На чым яны паедуць? На «ракаўскім» аўтобусе, у які немагчыма ўціснуцца? А за якія сродкі вы будзеце ўтрымліваць штогод тысячы штатных адзінак абслугоўваючага персаналу?

**В. Зуйкоў:** — Існуе індустрыя турызму...

**У. Шчасны:** — А хто з турыстаў далей мінскага ЦУМа ідзе?.. Ну, а такая праблема, напрыклад. Я быў у «дыснэйлэндзе» пад Лос-Анжэлесам, там уваходны білет каштуе 35 долараў. У наш «парк цудаў», трэба разумець, білет таксама будзе каштаваць нямала. Аднак ці можна параўнаць сэрвіс Лос-Анжэлеса з сэрвісам Ракава? Нашай бытавой культуры трэба расці яшчэ гадоў дваццаць. Што тут гаварыць пра Ракаў, калі ў Мінску на праспекце вакол столікаў, дзе прадаюць мінеральную ваду, бруд і смецце... Дык ці не лепш было б «індустрыю турызму» развіваць спачатку ў Мінску? А то што бачаць тут замежныя госці летам? «Мёртвы сезон». Цырк, вядомы ў свеце, зачынены, балетная трупа — на гастролях, нацыянальнай карціннай галерэі — няма. А нашы атракцыёны ў парках Горкага, Чэлюскінцаў — яны ж на вачах разбураюцца! Вось дзе трэба было б будаваць «цуды», а не вынішчаць прыроду.

(Працяг на стар. 4).

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

# ПРА ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЕ І ПРА ІНШАЕ

**ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ**

АДЗІН З МАІХ СВАЯКОЎ — *партыйны работнік* райкомаўскага рангу. Ён любіць пагаварыць са мной «шчыра», папікнуць у хлебамарнатраўстве альбо завесці гавэнды наконт таго, што літаратура, увогуле культура — добрая рэч, але ўсё-такі — другасная. Першасная — эканоміка: хлеб, святло, газ, трактары і электроніка... А што датычыць «вашай» беларускай мовы, то зусім дарэмна «вы дыхаеце *на яе, бо* ёй час ужо знікаць...» Маўляў, наперадзе — зліццё нацый, моў і культур...

*Сказаць шчыра,* з такім «мысліцелем» спрачацца цяжка. Як яму, фізіку, халоднаму рацыяналісту, фактычна касмапаліту, дакажаш тое, што не столькі даказваецца, колькі ўсвядомліваецца як аксіёма? Дзе і якія возьмеш для яго «жалезныя аргументы» — лічбы, каб паказаць велізарнае значэнне гістарычнай памяці, глыбокага розуму, тонкіх пачуццяў ды іншых вечных духоўных якасцяў, што выхоўвае культура, але якія не ўзважыш на тоны і не змерыш метрамі? Што дзеячы культуры не толькі не сядзяць на карку працоўнага народа, але даюць краіне агромністы прыбытак? Урэшце ці здолее сучасны чалавек як след займацца эканомікай, калі раптам забраць ад яго гэтае «другаснае» — літаратуру, музыку, мастацтва, тэатр, кіно, радыё і тэлебачанне? Ці пацерпіць тыдзеньдругі ў бездухоўным вакууме, а пасля завые і пабяжыць куды *вочы глядзяць ад самай* найноўшай электронікі? І яшчэ: ці не загубім мы зямлю, паветра, а пасля і сябе саміх, калі па-ранейшаму будзем даваць волю НТР, інтарэсам вытворчасці і недаацэньваць значэнне маральнасці, высокай культуры?

НА ВЯЛІКІ ЖАЛЬ, жыццё ідзе так, што і на 70-ым годзе Савецкай улады мы мусім жыць па прынцыпе «не да жыру, быць бы жыву». Усё тая ж спрадвечная простая, але і складаная задача: любымі сродкамі накарміць, апрануць людзей, развіць навуку, узбіцца на людскую тэхніку, вывесці з крызіснага стану эканоміку і г. д., і г. д. Але цяпер, у перабудову, мы ўбачылі і сумленна *сказалі* ўсяму свету: усе гэтыя 70 гадоў мы будавалі не зусім той сацыялізм, ён павінен быць іншы — не на мане, не пад бізуном, не лагерны, не толькі навуковатэхнічны, а найперш — гуманны, духоўны. Калі хочаце, прыгожы. Як плён чалавечых вопыту, пошукаў, розуму і пачуццяў. Дык ці другасная ў гэтай вялікай і высакароднай справе культура, у тым ліку і *наша, беларуская?* З усёй яе сілай пазнавальнасці, выяўленчасці, асэнсавання і выхавання маральнага ды высокадухоўнага?

Цяперашнія працэсы перабудовы, абуджэнне грамадства, чалавечага ў кожным чалавеку, народнага ў народах выявілі *сітуацыю, падобную да* той, што ўзнікла пасля рэвалюцыі, на пачатку пабудовы новага ладу. Энергія разняволлення, прага новага, спрэчкі, *барацьба з коснасцю,* эмацыянальныя перахлёсты, нецярпімасць да апанентаў, няўменне як след карыстацца галоснасцю і дэмакратыяй — як бачым, гісторыя зноў паўтарае пэўныя свае кругі. Праўда, ёсць і вялікая розніца. Тады, бывала, шмат, а то і ўсё рашаў у палеміцы «таварыш маўзер», а цяпер не — зброю ўбок, трэба шмат ведаць, умець слухаць, спрачацца, часамі стрымлівацца, *падтрымліваць здаровае,* а то і некаму, хто адстаў ад жыцця, не можа зладзіць з сітуацыяй,— сыходзіць са сцэны, саступаць дарогу здольным людзям з новым мысленнем і з жаданнем працаваць па-новаму.

Але ці па такім іменна сцэнарыі ў нас ідзе перабудова? Не зусім. Усё нашмат складаней. Той-сёй, каго высеялі сітам і далі высокае крэсла ў брэжнеўскія часы, хто стварыў для сябе сучаснае Эльдарада ў «агульнанароднай дзяржаве» і ўсякімі сродкамі ахоўвае сваю прывілеяваную цытадэль, толькі на словах за перабудову, а на справе зубамі трымаецца *за існае, «за стабільнае»* і гатовы на самае ганебнае ў дачыненні да тых, хто можа пахіснуць іхнюю ўладу і дабрабыт.

Хто чытае ў рэспубліканскім друку афіцыйныя даклады, дзе спрэс лічбы пра кілаграмы, тоны малака і зерня, пра машыны і трактары, дзе ўсяго некалькі слоў пра ідэалогію і культуру (пра ідэалогію як пра просценькую сістэму ўстановак, што павінны памагчы выканаць напружаныя планы, а пра культуру як пра пэўны шырспажывецкі мінімум для душы працаўнікоў), хто бывае на сходах навуковых і творчых калектываў ці чытае артыкулы вядомых дзеячаў навукі і культуры, — той не можа не ўбачыць у гэтым патоку два пагляды на стан многіх рэчаў у нашай рэспубліцы.

Чырвонай ніццю ў афіцыйных дакладах праходзіць адна і тая ж сфарміраваная ў высокіх кабінетах думка: Беларусь — стабільны эканамічны рэгіён, вялікіх скрыўленняў сацыялізму і ўлады ў нас не было, мы *па-сапраўднаму* інтэрнацыяналізаваныя — карацей, амаль усё ў нас на месцы, усе мы, кіраўнікі, таксама на месцы, то і мяняць штосьці ў структуры нашага рэспубліканскага апарату і ў жыцці грамадства не трэба. Мы павінны дбаць пра новыя, яшчэ большыя планы. Калі што і змяніць, дык самае вялікае — актывізаваць фізкультурна-масавы рух (для майго сваяка ідэальны той чалавек, які дзень прастаіць каля станка, пасля пацягае гіры ці штангу, затым забурыцца ў пасцель, пагладзіць тэлевізар альбо адразу засне — карацей, шмат працуе і мала думае). Другі, неафіцыйны пункт гледжання, гучыць з трывогай, а то і болем: так, дзякуючы выключнай працавітасці і непатрабавальнасці нашага народа Беларусь — больш-менш стабільны эканамічны рэгіён, *але гэтая* стабільнасць падтрымліваецца і былымі, несправядлівымі метадамі сталінска-брэжнеўскай сістэмы, а таксама ўжо і за кошт здароўя нашай зямлі і людзей, суверэнітэт рэспублікі апушчаны да правоў нарыхтоўчай канторы, партыйны і савецкі апарат дэнацыяналізаваныя, і перад з'явай нацыянальнага нігілізму насцеж адчынены ўсе дзверы, беларуская мова, мова шматмільённага карэннага народа рэспублікі, выкараняецца, наша ідэалагічная сфера часамі некампетэнтная, вышэйшы эшалон улады, сфар*міраваны ў застойныя часы па* дружбацкіх прынцыпах, патрабуе абнаўлення, бо той-сёй з яго ўжо кампраметуе партыю, уладу, не здольны на новае мысленне, можа штосьці рабіць толькі ў межах яе вялікасці Дырэктывы і г. д.

Прыемна ці не прыемна чуць гэта, але гэтыя дзве канцэпцыі не толькі ёсць, яны ў цяперашні момант нават сутыкнуліся. На першы погляд, гэта — нармальна, дыялектычна альбо, як цяпер кажуць, плюралізм у дзеянні. Але на справе, на жаль, дыялектычнага і плюралістычнага пакуль што мала, бо ідзе не столькі абмен думкамі, выпрацоўка адной *лініі, як збіраецца, накопліваецца,* мякка кажучы, незадаволенасць. Першыя ігнаруюць многія прапановы па аздараўленні сітуацыі і фанабэрліва, гнеўна аб'яўляюць іх дэмагогіяй, экстрэмісцкімі і амбіцыйнымі (успомніце, напрыклад, выступленне на леташняй сесіі Вярхоўнага Савета СССР аднаго з нашых кіруючых партыйных таварышаў, які мімаходзь сказаў пра клопаты, пра чарнобыльскую бяду на беларускай зямлі, а трэць сваёй прамовы прысвяціў выкрыванню «провокационных действий отдельных лиц, кто преследует свои амбициозные цели», хто «получает идеологическое воодушевление от все возрастающего нажима западных служб»). Другія, бачачы, што іхнія прапановы не прымаюць, а іх саміх ашальмоўваюць, у адчаі пачынаюць бэсціць за бюракратызм усіх пагалоўна, усё тое сапраўды стабільнае, што ёсць у рэспубліцы.

У ГЭТАЙ СІТУАЦЫІ неабходна ўважліва, стрымана высветліць: хто чаго хоча, хто што прапануе? Сказаць шчыра, незразумела, чаму дасюль не апублікаваныя праграмы розных так званых нефармальных аб'яднанняў, ініцыятыўнай групы Беларускага народнага руху «Адраджэнне»? Чаму, скажам, па тэлебачанні не арганізаваць на ўсю рэспубліку сустрэчу, дыскусію — «нефармалы», «адраджэнцы», прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі, рабочыя, сяляне і *загадчык ідэалагічнага* аддзела ЦК КПБ альбо старшыня ідэалагічнай камісіі ЦК КПБ? Няхай увесь люд паглядзіць: хто пра што дбае, хто супраць чаго! Баімся такой сустрэчы, дыскусіі? Баімся свайго народа? Не верым, што ён ва ўсім разбярэцца як след, пойдзе не за тымі? Не! Калі паважаеш народ, жывеш дзеля яго, а не яго бачыш дзеля сябе, то павінен давяраць. Народ чуйна ўсё адчуе, адрозніць, дзе зерне, а дзе пустакалоссе. У выніку прыйдзецца мяняцца самому і штосьці мяняць у грамадстве? Ну што ж, трэба перабудоўвацца на справе! Боязна ўступаць у палеміку і перабудоўвацца, страх за сваю пасаду і прывілеі? Тады ўжо, выбачайце, іншая размова. Тады ўжо трэба сказаць: прабачце, вы — не ленінскія камісары. Тыя не столькі сядзелі за мурамі і кіравалі па тэлефоне, колькі ішлі да людзей, у масы, слухалі іх, імгненна шукалі здаровае выйсце з усіх сітуацый і вялі за сабой.

Прыкра, ганебна для нашых дзён было назіраць летась, калі не на сфарміраваныя праграмы, а нават на асобныя думкі, выказаныя нефармаламі, вядомымі навукоўцамі і дзеячамі культуры, свядомымі прадстаўнікамі працоўных, тут як тут мабілізоўваліся групы з былых спецаў абалваньвання грамадскай думкі, і даўно ўжо не баяздольныя адстаўнікі бязладна палілі «па падонках», «нацыяналістах», якіх, дарэчы, нам не закінулі заходнія службы, а якія выраслі тут, на нашай зямлі, у савецкіх сем'ях, у тым ліку і ў сем'ях франтавікоў, *партызан і асоб* розных нацыянальнасцей і якія задыхаліся, марнавалі маладосць у застойныя гады, а цяпер захацелі свежага паветра. Іх білі, б'юць за ўсё: за тое, што вучацца, што няўрымслівыя, хочуць памагчы нашаму народу вярнуць яго гістарычную памяць, нацыянальныя сімвалы, слаўныя, але зганьбаваныя імёны дзеячаў навукі і культуры, адрадзіць у поўным аб'ёме беларускую мову; за тое, што ў іх якраз такія, якія ёсць, бацькі, цешчы і пляменнікі — карацей, дапускаюцца часамі самыя што ні ёсць ганебныя прыёмы. Куды там «маніфесту» Ніны Андрэевай да іх! Тая толькі разважала, штосьці прапаноўвала сваё, а тут —ужо дзеянне, танец з шаблямі!..

Безумоўна, ад усяго гэтага трэба грэбліва адкараскавацца, а заадно трэба быць пільнымі. Як помнім, каб утаймаваць абуджаныя розум, сумленне, Вялікі інквізітар з рамана Дастаеўскага «Браты Карамазавы» ад «імя вышэйшай ідэі» ў «імя самога ж чалавецтва» ішоў на спрактыкаваную, брудную хлусню, на падман, карацей, на ўсёдазволенасць. Як ведаем, інквізітар XX стагоддзя Сталін, каб справіцца з акрыленым пасля рэвалюцыі народам, не толькі хлусіў у «імя светлага будучага», але ўклаў дзесяткі мільёнаў шчырых, сумленных, адукаваных, працавітых — тых, хто забяспечыў бы нам сёння не прыкры застой, сорам перад усім светам, а росквіт. Не вельмі вялікае апраўданне, што, маўляў, «бацька народаў» тады ішоў новым *шляхам* і мусіў *памыляцца.* Выбачайце, але чаму ён і яго памагатыя маглі так вытанчана абалваньваць народ, чаму так мэтанакіравана высякалі ўсё лепшае і гэтак прадумана хавалі сляды сваіх злачынстваў? Адпаведна, нельга спакойна сузіраць, як хтосьці па-інквізітарску пачынае задумліваць утаймаванне цяперашняга энтузіязму, вызваленай энергіі — хітра апелюе да народа, спакваля нацкоўвае яго на свядомых, як хтосьці абласканы каманднa-адміністрацыйнай *сістэмай* альбо цёмны з людской масы падтаквае, а то і патрабуе расправы з «няўгоднымі»! Прагучала ж ужо летась, чуваць галасы і сёння: «Нам з вамі не па дарозе!» Людзі добрыя, не натхняйце тых, хто ўпарта чапляецца за старое і за сваё крэсла, хоча зноў паралізаваць людскі розум, сумленне, рыхтуе новы вобраз новых ворагаў, каб спачатку прынізіць, а *пасля і начапіць на ягоныя* рукі наручнікі, хто зноў хацеў бы бачыць увесь наш народ на лагерным становішчы, даць ход даносам і расправам!

(Працяг на стар. 14—15).

# Ракаўскі «дыснэй-лэнд»?

(Пачатак на стар. 2—3).

**А. Калінін:** — Так, сапраўды, атракцыёны ў рэспубліцы знаходзяцца не ў лепшым стане, бо ім ужо шмат гадоў. Таму вырашана некаторыя прадпрыемствы рэспублікі, якія працавалі на абарону, перапрафіліраваць менавіта на вытворчасць атракцыённай тэхнікі. Першыя ўзоры і трапяць у паркі адпачынку, у прыватнасці, — у «парк цудаў» пад Ракавам. Што тычыцца добраўпарадкавання парку Чэлюскінцаў, дык перанесці сюды эскіз-ідэю «парку цудаў» немагчыма, бо гэтай тэрыторыяй валодае, па-першае, горад...

**Н. Ходар:** — А, па-другое, тэрыторыя для нашай ідэі невялікая. Мы прапануем, у прыватнасці, стварыць у «парку цудаў» спартыўную, заабатанічную, гістарычную, забаўляльную зоны. Мы прапануем людзям памарыць, як яны хацелі б адпачываць. Вось, напрыклад, прыходзіў да нас пчаляр з просьбай стварыць у адной з зон музей мёду.

**У. Шчасны:** — Дык, значыцца, зона адпачынку іменна пад Ракавам — пытанне вырашанае, а не тая ўяўная эскіз-ідэя, што лунае ў марах, як гэта нам заснавальнікі конкурсу спрабуюць давесці? Чаму ж тады вы робіце такую спрэчную справу без абмеркавання?

**В. Зуйкоў:** — Сутнасць конкурсу — стварыць канцэпцыю адпачывання, бо адпачываць мы не ўмеем. Калі ласка, кожны чалавек можа з намі спрачацца. Але давайце ўносіць канструктыўныя прапановы.

**А. Вярцінскі:** — Што такое сёння Ракаў, яго землі? Гэта — не толькі наша гісторыя, не толькі прыгожыя краявіды. Гэта яшчэ і Дом творчасці пісьменнікаў, дзе людзі працуюць напружана, гэта санаторый «Аксакаўшчына», шматлікія піянерскія лагеры, прафілакторыі. Такім чынам, трэба ўлічыць, што ўвесь спакойны рытм жыцця гэтага рэгіёна, дзе людзі папраўляюць сваё здароўе, будзе парушаны. Шум, выхлапныя газы з аўтамашын, — а іх тут будзе штодня тысячы, — ці пойдзе ўсё гэта на карысць людзям? Думаць пра гэта неабходна сёння.

**В. Зуйкоў:** — Згодны, што эскіз-ідэю неабавязкова прывязваць да Ракава, можна будаваць такі цэнтр адпачынку ў іншым месцы. Прапаную «адпрацаваць» нашу ідэю на традыцыйным свяце «Мінск-89».

**В. Лапцік:** — Мы гаворым пра тое, што сама ідэя «дыснэй-парку» сёння, калі людзям не хапае жылля, паліклінік, калі дасюль няма індывідуальных дазіметраў для пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі, — сама гэта ідэя нагадвае «баль у час чумы». Гэта — амаральна!

**Н. Ходар:** — Я асабіста не магу пагадзіцца з пазіцыяй газеты. Трэба, відаць, запрасіць да размовы грамадскасць. Хай, скажам, яна выкажа сваю канцэпцыю адпачынку на старонках «ЛіМа».

**У. Шчасны:** — Што тычыцца абмеркавання эскіз-ідэі «парку цудаў», дык я прапаную правесці рэферэндум з абавязковым указаннем кошту гэтага аб'екта для забаў.

*Вось такая адбылася гаворка. Само сабой відочна, што кропкі ў ёй пастаўлена не было. Мы папрасілі паставіць гэтую кропку пісьменніцу Юлію Міхайлаўну Канэ, якой ініцыятары ракаўскага «дыснэй-лэнда» пакінулі на развітанне «Праграму і ўмовы» конкурсу па стварэнні парку.*

●

Пасля сустрэчы ў рэдакцыі «ЛіМа» мне давялося прысутнічаць на пасяджэнні экалагічнага клуба пры ЦК ЛКСМБ і Савеце маладых вучоных і спецыялістаў АН БССР, члены якога таксама адмоўна ацанілі праект забаўляльнага парку ў раёне Ракава. Таму, разглядаючы «Праграму і ўмовы», я часам буду звяртацца і да таго, пра што гаварылася на тым пасяджэнні.

Прызнаюся, мяне вельмі ўразіла і засмуціла, што мы, аўтары і супрацоўнікі «ЛіМа» і нашы апаненты, аніяк не паразумеліся. Кардынальна разышліся нашы ўяўленні пра тое, якімі павінны быць адносіны паміж вытворчасцю і прыродай, культурай і прыродай у наш час, пасля Чарнобыля, калі мы настолькі глыбока ўцягнуліся ў экалагічны крызіс, што павінны пазбягаць кожнага неасцярожнага кроку.

«Праграма і ўмовы» толькі пацвердзілі думку, што ўзнікла ў мяне пад час гаворкі ў «ЛіМе». Ініцыятары праекта зоны масавага адпачынку шчасліва пазбаўлены адчування глабальнай экалагічнай небяспекі, якая вісіць над усімі намі. Іх уяўленні пра экалогію (падстаў гаварыць пра экалагічную свядомасць гэты дакумент, на жаль, не дае) збедненыя, вузкія. Разгортваючы брашуру, я спадзявалася прачытаць экалагічныя абгрунтаванні праграмы, без якіх сёння нельга распачынаць ніводнага, тым болей буйнога, праекта. Але іх няма. Толькі ў самым канцы тэхнічнага задання, у пункце 34, рэкамендавана: «Вырашыць праблему смецця. Разгледзець экалагічныя нагрузкі». Вось так. Разгледзець, мець на ўвазе. Побач са смеццем і ў сувязі з ім. Можна сказаць — для адчэпнага.

**Яшчэ адно пацвярджэнне, што асноўным, калі не адзіным, прыродапарушальным фактарам аўтары «Праграмы і ўмоў» лічаць менавіта смецце і адходы, знаходзім у спісе асноўных дадзеных і патрабаванняў да праекта, дзе наконт мерапрыемстваў па ахове прыроды і ўтылізацыі адходаў даецца наступная рэкамендацыя: «Мерапрыемствы павінны быць такія, каб чалавека ў парку атачала суцэльная прыемнасць». «Суцэльная прыемнасць» — гэта трэба разумець — каб не чулася смуроду ад смецця і туалетаў.**

**Між тым экалогія і экалагічныя нагрузкі — гэта куды больш сур'ёзна, а ў праекце зоны адпачынку шмат такога, чаго ніякай «прыемнасцю» не кампенсуеш. Маецца на ўвазе, у прыватнасці, перапрафіліроўка ландшафтаў, і ў немалых маштабах. У тэхнічным заданні сказана: «Прадугледзець стварэнне неабходнага ландшафту з выкарыстаннем вады, штучнага рэльефу зямлі і г. д.». Значыць, будуць капаць і перакопваць, рабіць з нізкага высокае і з высокага нізкае, мабыць, збіраюцца нешта і затапляць, а дзеля гэтага ставіць гаці ці грэблі. Асабліва шматзначнае «і г. д.», бо хто ведае, што за гэтым хаваецца...**

**Далей — болей: «Прадугледзець магчымасці ПАСТАЯННАГА (падкр. мною.—Ю. К.) будаўніцтва, якое развівала б магчымасці адпачынку... Прадугледзець размяшчэнне будаўнічых прадпрыемстваў, гаспадарчых, рамонтных, эксплуатацыйных зон, пляцовак транспарту, жылых зон». А яшчэ ж — дарогі ды так званыя інжынерныя сеткі. Адным словам, «маляўнічая мясцовасць у лукавіне рачулкі Іслач» будзе перакроена і перавернута дагары нагамі.**

А што ж будзе пры гэтым з самой маленькай прыгажуняй Іслаччу? І ці ведаюць аўтары праекта аб пастанове Саўміна БССР аб ахове малых рэк? Не дбаючы пра малыя рэкі, мы загубілі нашы вялікія рэкі. І цяпер яны ж, малыя, — наша апошняя надзея. Каб хоць неяк выправіць становішча, Саўмін распрацаваў і зацвердзіў шэраг мерапрыемстваў па іх выратаванні. Забараняецца будаўніцтва ў далінах малых рэк і, перш за ўсё, будаўніцтва, прызначанае для адпачынку, бо якраз яно найбольш і выклікае іх забруджванне. Забараняюцца ўсе іншыя дзеянні, якія могуць садзейнічаць забруджванню і знясільванню малых рэк, у прыватнасці, высечка лесу, пракладка кабеляў і іншых камунікацый. А хіба можа буйное будаўніцтва без гэтага абысціся?

Нельга забывацца і на той істотны момант, што ў раёне Ракава знаходзіцца цэнтр водазабору грунтовых вод, якія вылучаюцца надзвычайнай чысцінёй. На 50% тэрыторыі Беларусі грунтовыя воды ўжо забруджаны прамысловымі і іншымі сцёкамі, а ў гэтых мясцінах яны пакуль яшчэ чыстыя! Плануемае будаўніцтва зоны масавага адпачынку пакладзе канец і чысціні Іслачы, і чысціні грунтовых вод, што адмоўна адаб'ецца на здароўі ўсяго, што жыве ў рэгіёне, — ад раслін да чалавека.

Згодна пастанове Саўміна, кожны, хто з'яўляецца водакарыстальнікам той ці іншай малой ракі, можа апратэставаць праекты або мерапрыемствы, якія ідуць яму на шкоду. Адным з водакарыстальнікаў Іслачы і іншых малых рэк, чые вярхоўі знаходзяцца на тэрыторыі, аблюбаванай для будаўніцтва зоны адпачынку, з'яўляецца Налібоцкая пушча. Вучоныя Інстытута заалогіі АН БССР звярнуліся да экалагічнай грамадскасці з пісьмом, у якім гаворыцца, што ў тым выпадку, калі праект будаўніцтва парку забаў у раёне Ракава будзе ажыццёўлены, загінуць не толькі рэдкія віды рыб у рэках пушчы (у іх вярхоўях гэтыя пароды ўжо зніклі) і занесеныя ў Чырвоную кнігу віды жывёл, але пачне гінуць і загіне і сама запаведная пушча. Дык што ж даражэй — пабудаваць парк адпачынку ці загубіць Налібоцкі заказнік, наша нацыянальнае багацце? Яго ж у іншае месца перанесці нельга...

Цяпер зірнём на праграму стварэння зоны адпачынку з пунктаў гледжання маралі і здаровага сэнсу. Гігантаманія, зачараванасць маштабамі і пакланенне буйным лічбам — адзін з галоўных грахоў мыслення, які дастаўся нам у спадчыну ад застойных гадоў. За вялізнымі памерамі можна было схаваць і імі апраўдаць непрадуманасць і валюнтарызм любых планаў, праектаў і дзеянняў. Маштабнасць нібыта здымала пытанні мэты і мэтазгоднасці. Сёння, навучанае горкім вопытам, наша грамадства з разумным недаверам ставіцца да буйнамаштабных намераў: за імі — вялікія грошы, вялікая рызыка, доўгія гады будаўніцтва. Дый дзяржава наша аказалася зусім не такой багатай, як мы думалі. Куды ні кінь — усюды і ўсяго не хапае, сто мільярдаў бюджэтнага дэфіцыту, і ўсё гэта, безумоўна, вынікі «маштабнага» і некампетэнтна - экстэнсіўнага гаспадарання.

**Чытаю ў «Праграме і ўмовах»: «Агульная плошча — 5—10 тысяч га»; «стварэнне велізарных, увесь час пашыраемых гісторыка-этнаграфічных і заабатанічных зон, а таксама зон атракцыёнаў (луна-парк) і цудаў (дыснэй-лэнд)»; «магутныя рэкрэацыйныя зоны»; «40 тыс. наведвальнікаў у дзень»; «25—40 тыс. чалавек абслугі»; «аўтастаянка на 15 тыс. машын», «унутры зоны адпачынку — жывая цяга (коні, вярблюды, алені...), спецыяльныя рэйкавыя і электрамабільныя віды, канаткі, трубаправоды» і г. д. і г. д.. Натуральна, узнікае думка: навошта такія памеры і такія фантазіі — пры нашым узроўні жыцця і абслугоўвання, пры нашых магчымасцях? Каму гэта трэба? Мінск жа — не Лос-Анжэлес (7 мільёнаў насельніцтва) і не Токіо (12 мільёнаў насельніцтва), на якія ўвесь час спасылаюцца аўтары праекта. Дый наогул, ці маральна затраціць на зону загараднага адпачынку 2 мільярды рублёў (па табліцы прыблізных затрат — 2195,9 мільёна), нават калі яны і не ўзяты з бюджэту? Ці маральна, калі невядома, дзе ўзяць грошы, каб павялічыць пенсіі старым, калі цяжарным жанчынам і адзінокім маці ў час выплачваецца ўсяго 5,8 мільёна рублёў у год, калі на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі выдаткавана 800 мільёнаў, а ўвесь гадавы бюджэт рэспублікі — 10 мільярдаў?**

**І хоць бы ўжо гэтая зона адпачынку планавалася на нейкай пустой, занядбанай ці не прыдатнай для вядзення сельскай гаспадаркі зямлі. А то ж каб стварыць зону забаў, трэба ўмяшацца ў жыццё цэлага вясковага рэгіёна і, па сутнасці, разбурыць гэта жыццё!**

**Паведаміўшы ў пункце 3, што парк будзе размешчаны на землях саўгасаў «Ракаўскі» і «Праца», у пункце 4 аўтары «Праграмы і ўмоў» пішуць наступнае: «Асноўнае патрабаванне: зона рэкрэацыі павінна быць прасякнута духам аптымізму. Здзіўленне, радасць і захапленне ўсё павінна выклікаць у кожнага. Плюс — адчуванне волі». Вось так: адным — радасць і захапленне, другім — адчужэнне зямлі, на якой жылі бацькі і дзяды, страта звыклых заняткаў і рытмаў жыцця, родных краявідаў, радзімы, урэшце. Мінус адчуванне волі.**

На пасяджэнні экалагічнага клуба мастак Ф. Янушкевіч, які нарадзіўся і жыве ў Ракаве, звярнуўся да арганізатараў праекта ад імя былых пакаленняў насельнікаў гэтых мясцін, чые могілкі згодна праекту прызначаны пад знос, і ад імя цяперашніх жыхароў. «Тут жа жывуць карэнныя, мясцовыя людзі, — сказаў ён. — З імі што будзе?»

Могілкі паабяцалі не чапаць, другое пытанне засталося без адказу.

Адказваючы на меркаванні ўдзельнікаў «круглага стала» ў «ЛіМе» і членаў экалагічнага клуба пры ЦК ЛКСМБ адносна нерэальнасці, немэтазгоднасці і недастатковай маральнасці задумы зоны адпачынку, арганізатары праекта ўвесь час спасылаліся на сусветны вопыт, або, як яны казалі, «ужо назапашаны сусветны вопыт». Але нават у вытворчай галіне, у галіне тэхналогіі, здавалася б, найбольш прыдатнай для пераймання чужога вопыту, у нас далёка не заўсёды і не ўсё атрымліваецца добра. Што тычыцца культуры, дык тут механічнае пераймание, капіраванне чужога вопыту прыносіць даволі мізэрныя, а часам непрадбачаныя і непажаданыя вынікі, бо ў гэтай галіне, як ні ў якой іншай, маюць значэнне традыцыі сваёй культуры і псіхалогіі, свой гістарычны і сацыяльны вопыт. Не кажучы ўжо — паколькі гаворка ідзе пра масавы, так бы мовіць, індустрыялізаваны адпачынак — пра ўзровень і стан эканомікі і дабрабыту.

Жывым доказам таго, хто тут мае рацыю, з'яўляецца, на маю думку, невялікі, але востры канфлікт, які адбыўся на пасяджэнні экалагічнага клуба. Адзін, а потым другі член клуба абурыліся, што ў праграме праекта надта часта ўжываецца слова «зона». Іх выступленні, у сваю чаргу, абурылі прадстаўніка ўстаноўчага навукова-вытворчага аб'яднання В. Зуйкова, які сказаў, што выраз «рэкрэацыйная зона» — гэта міжнародны тэрмін, агульнапрыняты і, маўляў, няма чаго займацца палітычнай дэмагогіяй. Пасля таго В. Зуйкоў развітаўся і пакінуў пасяджэнне. «Пакрыўдзілі добрага чалавека», — сказаў другі прадстаўнік НВА.

Але тут было іншае, тут праявіў сябе розны падыход да механічнага, бяздумнага пераймання чужога. Вядома, у генетычным вопыце тых, хто недзе — у Лос-Анжэлесе, Фларыдзе ці Парыжы — ужывае слова «зона» як тэрмін, няма ні Калымы, ні Азарычаў, ні Асвенціма, таму ён і не выклікае ў іх ніякіх абражальных асацыяцый. А мне, прыкладам, таксама стала блага, калі я прачытала ў рэцэнзуемай брашуры пра «25—40 тыс. чалавек абслугоўваючага персаналу (дарэчы, скуль яны возьмуцца, тыя тысячы? — **Ю. К.**), што пастаянна пражываюць у зоне альбо яе наваколлі, якое ізалявана, у тым ліку па камунікацыях, ад рэкрэацыйнай часткі». Рука імгненна напісала на палях: «лагер!».

**Я веру, што аўтары праекта парку масавага адпачынку кіраваліся добрымі намерамі, але яны многае не ўлічылі, у тым ліку цяперашнюю грамадскую і псіхалагічную сітуацыю, калі тыя, за каго рашаюць, мысляць парой больш сучасна, гаспадарліва і адказна, чым тыя, хто рашае. Так, наш час вымагае думаць і лічыцца з рэальнасцямі. Каб разумець, што мы можам сёння дазволіць сабе і якой цаной, мы павінны дакладна вызначыць свае экалагічныя, маральныя і культурныя прыярытэты.**

**Я б пакрывіла душой, калі б сказала, што не знайшла ў брашуры з праектам парку нічога цікавага, добрага і прыдатнага для ажыццяўлення. Але тое цікавае і добрае трэба яшчэ асвоіць, г. зн. зрабіць сваім, прыстасаваўшы да нашых патрэб і ўмоў. Мінчанам сапраўды не хапае выбару магчымасцей і форм адпачынку. Мінску сапраўды, у дадатак да прыведзеных у парадак старых паркаў, не зашкодзіла б мець новы, шматпрофільны, па тыпу прапанаванага, а можа, нават і «ўсепагодны» парк пад дахам, пра які так прыгожа расказана ў брашуры. Але, вядома, не за 40 кіламетраў ад горада — людзі хочуць адпачываць з найменшай затратай часу, сіл і нядорага, — а ў яго межах. Скажам, у адным з новых мікрараёнаў або каля яго, і тэрыторыя парку забаў павінна быць, безумоўна, не такіх шалёных памераў. Ёсць думка — яе выказаў член экалагічнага клуба Я. Церахаў, — што асобныя зоны такога парку могуць быць раскіданы па розных раёнах горада і размешчаны альбо на адной восі (прыкладам, уздоўж поймы Свіслачы), альбо паасобна.**

Калі ж сродкі, прызначаныя на зону масавага адпачынку, нельга перакінуць на горад (адзін з членаў клуба выказаў думку, што ў гэтым выпадку ад іх трэба ўвогуле адмовіцца), неабходна, істотна скарацiўшы прапанаваныя памеры гэтай зоны, змяніць месца яе размяшчэння, пакінуць лукавіну Іслачы, раён Ракава. Вось пра гэта дзвюх думак быць не можа. Той жа Я. Церахаў прапанаваў выкарыстаць для гэтай мэты раён Мінскага мора. Экалагічныя і маральныя выдаткі ў гэтым выпадку будуць значна меншыя, грашовыя — таксама. Затое якасць самога адпачынку — бо які ж летні загарадны адпачынак без вялікай вады! — істотна ўзрасце.

У тым выпадку, калі аўтары праекта не захочуць мяняць месца (а па ўсім відаць, што так яно і будзе, бо, з аднаго боку, іх не пераконваюць нашы аргументы, а з другога, яны, мабыць, ужо даволі доўга заняты «прывязкай» да раёна Ракава), прапаную неадкладна правесці **незалежную экалагічную экспертызу праекта**, а таксама стварыць грамадскую камісію для кампетэнтнага вырашэння гэтага пытання.

**Юлія КАНЭ.**

## Паэзія

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



### Рэтраграды

І сягоння дужа рады
Маладыя рэтраграды,
Паўтараючы азы,
Націскаць на тармазы.

Час застольны, час застойны,
І спакойны, і прыстойны,
Бо выгодамі багаты, —
Ўспамінаюць бюракраты.

«Дэмакратыя ж — разлад!
Лепш за ўсё вярнуць назад
Незабыўныя парадкі,
Калі, пляскаючы ў ладкі,
Набівалі мазалі
Чытачы «Малой зямлі».
А цяпер пайшоў разлад, —
Не выконваюць загад!»

Кіньце вы свае загады,
Маладыя рэтраграды,
Бо працуе не на вас
І народ, і новы час.

### Няўжо яшчэ жывы?

Яго аж двойчы пахавалі,
Яго мільёны праклялі,
І ўсе сумленныя назвалі
Страшнейшым катам на Зямлі.

А Ён хітруе, што — нябожчык,
Прыкінуўся, што нежывы,
Яго жалезных крокаў пошчак
Скаваў і волю, і правы.

Крадком ён запаўзае ў душы
І непрыкметна ў іх жыве,
Упарта ўсё жывое душыць
У нетрывалай галаве.

Ён бліскае крывавым вокам,
І пасміхаецца, і рад,
Што нехта не зусім далёкі
Яго выконвае загад

І так, як Ён, жывое душыць,
Слабейшых кідае на дол,
Святы агонь у сэрцах тушыць,
Бо сняцца «ворагі» наўкол.

Калі б сумленнейшых мільёнаў,
Забітых Ірадам здаля,
Пачулі енкі і праклёны —
Наўзрыд заплакала б Зямля.

З запырсканых крывёю кратаў,
З прабітай кожнай галавы,
Ад Калымы да Курапатаў
Гучыць, што Ён яшчэ жывы.

Каб толькі не зрабіць праліку,
Каб болей не было пагроз,
Каб у маленькім і ў вялікім
Ён больш ніколі не ўваскрос.

Пільнуйцеся, адзінаверцы,
І выкрасліце назаўжды
З душы, свядомасці і сэрца
Яго крывавыя сляды,

Бо цень яго яшчэ не сцёрты,
І шлях дыміцца крыжавы,
Таму трывожна, што і мёртвы
У нейкім недзе Ён жывы.

### Вяртанне

Сталі прахам, і пылам, і тленам
Невядома за што і калі,
І да трэцяга, мабыць, калена
Іх радню і сяброў размялі

І таўром, як адзнакай праказы,
Закляймілі на гібель і звод
Кар'ерысты, злачынцы, пралазы
Паслухмяны бяззбройны народ.

Страшным выракам «вораг народа»
Казыралі ў сваёй «барацьбе»,
Вынішчалі народ без звароту,
А народам лічылі сябе.

За цвярозыя думкі і словы,
За сумленне без жаднай віны
Навылёт прабівалі галовы,
Каб не думалі болей яны,

Каб рабіліся прахам і тленам,
Каб імёны забыліся іх,
Каб прыходзіла мудрым на змену
Пакаленне сляпых і нямых.

Прамаўчалі мы больш паўстагоддзя,
Хоць і бачылі ўсё навылёт.
І нарэшце адважыўся «Годзе!»
Заявіць паслухмяны народ.

Не маўчым, а гаворым, гаворым
І з патрэбаю, і без патрэб,
І па звычцы нам есці не сорам
З кукурузай заморскаю хлеб.

О, каб столькі дабра, як Герояў,
На зямлі нашай шчодрай было,
Мы б не ўспомнілі сёння старое
З пахам рошчыны наша сяло.

Набалелая горкая памяць
Нас вяртае ў былыя гады,
Дзе здалелі хлуснёю заплямiць
Хлебаробаў і творцаў суды.

Тых пакутнікаў цені святыя
Ўскрасаюць адна за адной
І ўзыходзяць на ўсходцы крутыя
Для нашчадкаў сваіх навіной,

Каб нарэшце пабачылі людзі
І цяпер і ў наступным жыцці,
Што ахвяры — сапраўдныя суддзі,
А злачынцаў пакуль не знайсці.

### Дыялог

Мы вам паверылі тады,
Калі сваёй абралі ўладай,
А нас палохаюць суды,
Замест падтрымкі і спагады.

Чаго ж хвалюецеся вы,
Што ўпершыню ўздыхнулі вольна?
Адчулі ўласныя правы?
А вы крычыце ўжо: «Да-воль-на!

Найлепей, калі ўсе маўчаць
І апладзіруюць часамі,
А не спрабуюць павучаць
Тых, што вучыць прывыклі самі».

Пасада ваша ўсім відна,
А сіла ў гербавай паперцы.
Што вы такія, тых віна,
Хто скроіў вас па ўласнай мерцы

І так ушрукаваў мазгі,
Такія даў правы і волю,
Што вы ні гора, ні тугі
Яшчэ не ведалі ніколі.

А тут палезлі дзівакі.
Ніяк іх не пабораць, —
Параспускалі языкі,
Што думаюць, — гавораць.

«Куды палезлі? Прэч! Назад!
Бо вам не дачакацца спуску,
А скажаце што неўпапад,
Адправіць можна і ў кутузку,

Там і астынеце якраз,
А мы тым часам падгадуем
Патрэбных хлопцаў, і без вас,
Як трэба, ўсё перабудуем,

Каб засталося ўсё, як ёсць,
Тады ніхто нас не пакратае,
І не дазволім сеяць злосць
На колішнюю «дэмакратыю».

Вядома нам: **што, дзе, калі,**
Бо ўсім кіруем з пульцікаў,
І нават культ перамаглі...»

Ды напладзілі культыкаў.

Апамятайцеся! Людзей,
Што сталі ўрэшце сталымі
І што не страцілі надзей,
Не лайце «нефармаламі».

Яны паднядзь памогуць груз
У поступе імклівым,
Каб стаў магутны наш Саюз
Сумленны і шчаслівы.

### Свечка

Завея пазрывала правады,
Скавала сцюжа лужыны і рэчку.
У хаце змрок, але такой бяды, —
Магу нарэшце запаліць і свечку.

І запаліў. Яна трашчыць паволі,
Дрыжыць на шыбе і сцяне прамень,
І чорным прывідам гайдаецца на столі
Мой адзінокі і зламаны цень.

Паволі напліваюць успаміны:
У нашым непрыкметным гарадку
Раса з пялёсткаў хмельнага язміну
Асыпалася на тваю шчаку.

Калі ты помніш першую сустрэчу,
Успамінаеш, мабыць, і мяне,
Калі здавалася, што гэты вечар
Для нас ужо ніколі не міне.

Быў і працяг: патухла свечка ў змроку,
Я на плячы адчуў тваю руку,
Але ўначы бяда таемным крокам
Прайшлася і па нашым гарадку.

Палалі шчокі, на губах гарчыла,
Дрыжала свечка у тваёй руцэ,
Калі з табой нас поўнач разлучыла,
Скацілася расінка па шчацэ.

Не верыла ты ў тую пагалоску,
Што і ў вушах гула, і ў праўдах,
І доўга не сцірала кроплі воску,
Што застывалі на маіх слядах.

Мы дажываем з незагойным болем,
Спазнаўшы столькі гора на вяку,
І ведаем, што больш ужо ніколі
Нам не сустрэцца ў ціхім гарадку.

Завея замятае ўсе дарогі.
Няма з кім сумаваць і гаварыць.
Усё міне, — і радасць, і трывогі,
І непрыкметна свечка дагарыць.

●

О, колькі голых каралёў
Жыве і ходзіць паміж намі,
І ўсе ў кальчугах з медалёў,
З пасадамі і з ардэнамі.

І кабінеты, і чыны
Ім дасталіся ў час нягоды.
Там і трымаюцца яны,
Хоць голыя заўсёды.

●

Пагаварылі, — выпусцілі пару,
Адкрылі язвы ў целе і ў душы,
А больш крытыкаваць нам не да твару
І ўсё мяняць, пішы ці не пішы.

Маленькі дожджык з немалога грому
Папырскаў горад і сяло,
А ў іх жывуць дагэтуль па-старому,
І застаецца ўсё, як і было.

Не дбаюць часам, праў ты ці не праў ты,
Не заўважаюць горкую слязу.
Калі ж ізноў спалохаюцца праўды,
Няўжо спатрэбяцца і краты, і бізун?

---

КАБ ТЫ ПАБАЧЫЛА, Таццяна... Чорны пыл вісіць над дарогай. Машыны, трактары, зноў машыны. Ты не заспела ў нашай вёсцы чорнага пылу. Упершыню ён з'явіўся, калі асушылі балота і пасадзілі на ім бульбу, а вецер уздымаў у паветры торф і кідаў яго на вёску. Цяпер чарната і ў зацішную пагоду вісіць — як навек над намі навісла.

Зноў зачапілі людзі таемную сілу, што хаваецца і на дне балота, і ў лясных нетрах, і ў гэтых, няма знаць якіх нябачных атамах. Іх мноства, увесь свет з іх складаецца, як печ з цаглін. Я вось дажыў, дачуўся. Таццяна.

Зло-ліха заўсёды пакідала чорнае бязладдзе за сабой: вуголле, нябожчыкаў, груганоў над імі. У атамаў, здаецца, ніякай афарбоўкі няма, але ў нашай вёсцы і цяпер зло-ліха не выраклася свайго адвечнага колеру.

Дачка наша некалі казала, і Мацвейка, што жыве цяпер у мяне, пацвердзіў: быў такі герой, які ўкраў у бога агонь. Людзі пагрэліся каля цяпельца і панеслі паходні ўва ўсе бакі. У нетры лясныя, у пячоры глыбокія, нават пад ваду і ў прадонні нябесныя ўварваліся людзі, калі зацуглялі агонь. Але забыліся яны, у каго агонь украдзены, забыліся на бога і палезлі блізка да яго ў тыя нябачныя атамы. А таемная сіла папярэджвае нас, што нельга раўняцца з богам, калі мяркуем мы заставацца людзьмі.

Мацвейка не пагаджаецца са мной і не спрачаецца. Хай бы ён тады сказаў, чаму таемная сіла хоча спаліць нас, чаму такі чорны пыл навіс над вёскай. О, дзяды-волаты...

Спачатку хлопцы лілі на адхоны вадкае шкло з празрыстых мяхоў. Так называлі — вадкае шкло, хоць мне крыху сумніцельна. На заводах шкло, пакуль не зацвярдзее, вадкае, я чуў, але ж яно там гарачае, там яго вараць. А ў мяхах халоднае і не цвярдзее, а як вылілі — тут табе і ўзялося, нібыта шарон на гурбах. Хлопцы смяяліся, што я здзівіўся, дурылі галаву, быццам цвярдзее шкло ад сутыкнення з паветрам. Як сабе хочуць, веры я ім не даў. І ўсё роўна ні трасцы з таго шкла не атрымалася. Лілі яны яго цэлы дзень, пазалівалі адхоны: і зямля пад шклом, і вецце-смецце, недакуркі розныя. Трава — як позняй восенню дождж пакрапаў, а нанач прымарозіла. Смеху варта. Калі не гудуць машыны, то пылу менее, а загулі — зноў вісіць, як вісеў.

Потым хлопцы прыгналі самазвалы з асфальтам, каток цяжкі. Зірнеш — як у гаршку кіпіць. Раскідвалі яны асфальт, укатвалі яго. Ад смуроду нават рабая курыца, якая нікому ў рукі не далася ні ў эвакуацыю, ні пазней, на горад уцякла. Ачах асфальт, рушылі машыны — той жа чорны пыл.

Не, Таццяна, бога на крывой кабылцы не аб'едзеш. Калі мы лезем да яго глыбей, то бог нам сплаціць. Ганяйце цяпер машыны... У Прыпяць яны вязуць абы-што: цэмент, цэглу, пілюлькі... А з Прыпяці адно — зямлю. О, дзяды-волаты, зямля стала ворагам, зямлю трэба хаваць.

А людзі едуць і ў Прыпяць да атамнай станцыі, і назад у свае гарады. Едуць часам людзі-начальнікі, якія хочуць мяне з роднай вёскі выгнаць, Таццяна! Таму я на вуліцу звычайна не вытыркаюся, а як вытыркнуся, адразу які-небудзь пыхлівы начальнік пачынае мяне страшыць. Добра, што хоць хлопцы кінулі гэтым глупствам займацца.

Калі з'явіліся яны ў вёсцы пасля эвакуацыі, дык ажно з прыдыхам страшылі. Маўляў, і захварэю я, і есці сабе не знайду. Я, значыцца, дурны, а яны мяне наўмілі. А самі, разумныя, не ведаюць таго, што я ведаю. Канечне, хацеў я яшчэ пералетаваць, паміраць збіраўся на калядныя маразы. Даўно ў мяне гэта намеркавана: каб скавытаў вецер, каб завіруха білася ў вокны, каб магілу адразу ўкрыў белы снег. Бацька на калядныя маразы вочы заплюшчыў і рукі склаў, то і я... А цяпер адчуў, што не трэба цягнуць да зімы. Калі ўсё ідзе на згібенне, калі вёскі больш не будзе, калі дачка з унукамі навек адсюль з'ехалі... Чакай, Таццяна, не запазнюся я!

Загасцяваўся я на зямлі, смыліць душа: паквапіўся на жыццё, не здолеў памерці, як чалавек, пры сваёй радні. Было аднаго разу, даўно ўжо... Ногі пахаладзелі, стала зімна і целу, і душы, смерць у белым покрыве стаяла ў нагах, а я заўпарціўся. Меншы ўнук захварэў на лёгкія, гарэў гарма, вось я і напяўся дачакацца, каб палегчыла яму.

**Французскае слова «дэбют», як і спалучэнне «творчая маладосць», настолькі асімілiравалася ў прафесійным лексіконе нашай кінарэжысуры, што даўно страціла першапачатковы сэнс. І толькі не спакушаны ў тонкасцях кінасправы глядач мяркуе, што кожнае новае імя пастаноўшчыка ў цітрах належыць сапраўды маладому чалавеку. Навучаны ж уласным (або чужым) вопытам кінематаграфіст такім ілюзіям не паддаецца. А тым часам у «маладых», «дэбютантах» у нас можна хадзіць да сівых валасоў.**




Ніна ФРАЛЬЦОВА

# Доўгая дарога ў сталасць

«У нас» — гэта на кінастудыі «Беларусьфільм». У Маскве, Ленінградзе, Грузіі справы ў гэтым плане палепшыліся. Мяркуйце самі: за два гады Ю. Мамін зрабіў кароткаметражны фільм «Свята Нептуна» і поўнаметражны «Фантан»; у той жа час выйшаў «Гаспадзін афарміцель» А. Цяпцова—карціна, якая была толькі дыпломнай работай, стала пракатнай. Пабіў усе рэкорды маладых дваццацішасцігадовы В. Пічул «Маленькай Верай»...

Сённяшняя гаворка — аб кароткаметражных ігравых фільмах пачынаючых рэжысёраў нашай студыі. Аналізуючы нядаўні прагляд гэтых стужак у рэспубліканскім Доме кінематаграфістаў, міжволі канстатуеш: трэба быць вялікім аптымістам, каб гаварыць аб нейкіх пераменах у палітыцы папаўнення творчых кадраў. Не абвінавачваю ў гэтым маладых рэжысёраў. Атрымаўшы права самастойнай пастаноўкі, пакуль не вядомыя шырокаму гледачу С. Шульга, В. Дзяругін, В. Таўкачыкаў, А. Фянько, Н. Шылок і іх калегі, якіх глядач ведае ў іншай якасці — аператар Д. Зайцаў (дылогія па І. Мележу «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»), рэжысёр-дакументаліст Ю. Хашчавацкі (фільмы-прызёры ўсесаюзных тэлефестываляў «Гэтае «ціхае жыццё» ў Глыбокім» і «Тут быў Крылоў»; «Сустрэчны іск», што атрымаў галоўны прыз Першага міжнароднага фестывалю неігравога кіно ў Ленінградзе) — гэтыя кінематаграфісты ў меру разумення сваіх задач дадзенае ім права стараюцца выкарыстоўваць. Аднак у іх фільмах, нават у тых, што, на мой погляд, найбольш цікавыя — «На чыгунцы» В. Дзяругіна, «Цубанікі» С. Шульгі, «Свята» В. Таўкачыкава, — няма таго, што сёння завецца новым вобразам мыслення. У чым жа тут справа?

Вядомы савецкі рэжысёр С. Юткевіч у свой час гаварыў: калі ў першым фільме будучага майстра ёсць хаця б адзін варты кадр, трэба стварыць умовы, каб гэты кадр вырас з часам у цэласнае светаадчуванне. З «вартымі кадрамі» ў карцінах нашых маладых усё ў парадку. У Дзяругіна, напрыклад, запамінаецца ўзвышаны вобраз жанчыны, які ва ўяўленні змучанага грамадзянскай вайной чырвонаармейца Яўмена (А. Лабуш) увасабляецца ў выпадковай спадарожніцы Марыі. Іх шляхі імкліва разбягаюцца ў хаосе жыцця. І для Яўмена сапраўдная драма — зразумець, што некалькі гадзін, праведзеных побач з Марыяй, пра якую ён ведае ўсё і... нічога не ведае, ніколі не паўторацца. У Шульгі вобраз света, перавернутага іншай вайной — Вялікай Айчыннай, — перададзены ў эпізодзе, калі сын-паліцай зрывае ручнік з іконы ў хаце бацькоў. На гэты ручнік ён пакладзе хлеб-соль, каб сустрэць фашыстаў... І скончыцца нармальнае жыццё ў гэтым доме, сарванае з векавых устояў, як сарвалася з прывычнага месца ікона. Бацька заб'е здрадніка-сына.

Ёсць вострыя, напружаныя моманты і ў Фянько ў «Промні месяца», і ў Шылок у камедыі «Не разумею». Складаней з умовамі, у якіх удала знойдзены сімвал здольны стаць пазней светапогляднай канцэпцыяй. Пад нагамі ў маладога пакалення нашай студыі няма любоўна апрацаванай старэйшымі майстрамі глебы, трапіўшы ў якую зерне «боскага дара» з часам можа прарасці моцным коласам. Прызнання калег прыходзіцца чакаць гадамі. Каб не быць галаслоўнымі, возьмем у рукі выдадзеную ў 1988 годзе «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі». Дарэмна шукаць у ёй прозвішча, скажам, рэжысёра В. Рыбарава. Паставіўшы на момант падрыхтоўкі пяцітомнага выдання тры фільмы, ён усё яшчэ прылічаўся да «маладых». І не дзіўна. Ад кароткаметражнага дэбюта «Жывы зрэз» яму спатрэбілася ледзь не дзесяць гадоў, каб зняць поўнаметражную «Чужую бацькаўшчыну» па В. Адамчыку і тэлесерыял «Сведка» па аповесцях В. Казько. Акрамя Рыбарава, да рэжысёраў ужо вядомых, але ўсё яшчэ «маладых», можна аднесці В. Рубінчыка, Я. Маркоўскага, які так і не дабіўся пастаноўкі аб Канстанціне Заслонаве...

Цяжкае шматгадовае ўзыходжанне да прафесіі стала на «Беларусьфільме» традыцыяй. Безбалесна, мусіць, увайшло ў беларускі кінематограф толькі першае пасляваеннае пакаленне. Падняўшыся на хвалі, як цяпер кажуць, «хрушчоўскай адлігі», гэтая генерацыя на чале з В. Туравым, Б. Сцяпанавым, І. Дабралюбавым, Р. Віктаравым і іншымі амаладзіла нешматлікія рады майстроў таго часу не так колькасна, як якасна: у іх фільмах білася жывое пачуццё, яны былі прасякнуты разняволеным успрыманнем света і чалавека ва ўсёй складанасці іх узаемаадносін.

Здавалася ўжо: так будзе заўсёды. Аднак сёння бачыш, што перыяд застою ўздзейнічаў на станаўленне рэальных творчых лёсаў. Талент як добрае віно: чым даўжэй вытрымка, тым танчэй букет. Думка вялікага француза, якая была сказана зусім з іншай нагоды, на «Беларусьфільме» стала вытанчаным інструментам, якім праводзіліся грубыя аперацыі на артэрыях, што неслі маладую кроў арганізму кінематографа. Дэкларацыі накшталт «дарогу — маладым» чулася ўсё больш; быў праведзены нават спецыяльны пленум СК БССР, прысвечаны гэтаму пытанню. А на самой справе дзейнічалі іншыя клапаны...

Пакінем убаку крывадушнае сцвярджэнне аб тым, што ўвіты лаўрамі «вянок цярновы» ўпрыгожвае чало мастака. Дэфармiраваная, пазбаўленая магчымасці нармальна развівацца эвалюцыя творчых відаў у рэжысёрскім корпусе прывяла да шэрагу з'яў, галоўную з якіх можна назваць «псіхалогіяй лішняга чалавека». Разумеючы крытычны стан нашага сучаснага ігравога кіно, якое пакуль значна ўступае экраннай публіцыстыцы, наш «лішні чалавек» у сферы сваёй суб'ектыўнай творчай дзейнасці абмежаваны залежнасцю ад звыклай сістэмы кінематаграфічных каштоўнасцей. Калі ён і выказвае пратэст, то алегарычна, уходзячы ў пласты адпрацаванага іншымі сацыяльнага і духоўнага вопыту. У гэтым, на мой погляд, і трэба шукаць прычыну таго, што ў шэрагу фільмаў, пастаўленых маладымі, мы не бачым новага героя, новай тэмы, сугучнай часу.

Боязь выйсці «ў адкрытае жыццё» ідзе перш за ўсё ад няпэўнасці свайго становішча на студыі. Вось чаму, нягледзячы на розны ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі, у сённяшніх маладых надзіва падобныя эстэтычныя платформы. Гэта праяўляецца і ў выбары тэматыкі, і ў чыста кінематаграфічных сродках яе выяўлення, і ў следаванні вядомым жанравым структурам.

Вось, напрыклад, фільм Д. Зайцава «Усе некага кахаюць». У ім распрацоўваецца характэрны для беларускага кіно жанр меладрамы. «Лепшы вадалаз Ахоцкага мора» Грыня (Б. Галкін) з дзесяццю тысячамі ў «дыпламаце» едзе на «мацярык», каб выкупіць сына ў скнары-жонкі. Аперацыя заканчваецца плачэўна: грошы жонка прысвойвае, а сына пры дапамозе міліцыі адбірае... Момант, калі Грыню прыходзіць у галаву думка ацаніць сына ў дзесяць тысяч, па-свойму сімптаматычны. Калі б у героя на ашчадкніжцы было б больш, аддаў бы да апошняй капейкі і гэта. У гэтым месцы сюжэта «сціплы спектакль жыцця», кажучы словамі А. Платонава, мог бы ператварыцца ў востры і жорсткі сацыяльны эцюд сучасных нораваў. Але ў жанр меладрамы гэты паварот не ўпісваецца, і фільм спыняецца на ноце спачування да небаракі-вадалаза.

У Ю. Хашчавацкага ў карціне «Хто сёння адсутнічае» выразна прагледжваецца канструкцыя, распрацаваная ім у дакументальнай камедыі «Тут быў Крылоў». Аналогію ўзмацняе не столькі тэма — школьныя праблемы, — колькі спосаб яе вырашэння. Калі ў «Крылове» набор сродкаў быў у эстэтычных адносінах новы, адзінкавы, то тая ж самая схема, разыграная акцёрамі, паказала: Хашчавацкаму ўласціва пачуццё сатырычнай, гратэскавай формы, але не ўласціва пачуццё стылістычнага адзінства яе са зместам. Сродкі аказваюцца выразней тэмы і яе развіцця ў псіхалагічнай распрацоўцы характараў, што асабліва бачна ў вобразе, сыграным А. Клімавай.

Так званае «жанравае», «відовішчнае» кіно прадставіла Н. Шылок у дзвюх стужках «Прысуд» і «Не разумею».

Пры ўсіх вартасцях сапраўды смешнай фантасмагарычнай гісторыі карціны «Прысуд» нельга не ўбачыць за вобразамі яе герояў каларытныя фігуры «Самагоншчыкаў» Л. Гайдая. У эксцэнтрычнай жа камедыі «Не разумею» ў экраннае дзеянне ўступаюць пісьменнікі-сатырыкі С. Альтаў і М. Задорнаў, па сцэнарыю якіх і разыгрываецца фільм. Самі ж яны выступаюць у ролі сатырычных рэзанёраў.

Першыя фільмы заўсёды нясуць у сабе нейкае адценне вучнёўства ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. Аднак ні ў чым так не выявілася праславутая «псіхалогія лішняга чалавека», як у тэндэнцыі сённяшніх маладых да акумуліравання духоўна-этычнага, сацыяльнага багажа, назапашанага да іх (у літаратуры гэта называецца кніжным веданнем жыцця): на экране мы звычайна бачым абавязковую цытату, вакол якой будуецца ўласны кантэкст яе тлумачэння.

Як парафраз на тэму апавядання А. П. Чэхава «Доктар» зроблены Н. Князевым фільм «На жоўтым беразе». У мінулым годзе Князеў, слухач вышэйшых рэжысёрскіх курсаў, зняў курсавую дакументальную стужку «Побач», у якой заявіў аб сабе досыць цікава: у невялікай па аб'ёме карціне яму ўдалося выказаць сваю думку аб «цяжкай» моладзі; ён здо-

# ГАЛАСЫ

(Пачатак на стар. 8—9).

— Дзіўны ты... Па шлангах сёе-тое да рэактара пампуюць. Абарваліся шлангі, дык я пайшоў падключыць.

— Сам?

— З дазволу.

— І па сваёй ахвоце?

— Па сваёй. А што, ты такому веры не даеш? Не здольны чалавек па сваёй ахвоце?

— Ага... Ты ў нас правільны... Добраахвотнік... Брэшаш! На грошы ты пакваліўся! Колькі табе «грабавых» заплацілі?

— Колькі заплацілі — усе мае. Табе не плацяць?

— Мне-то плацяць! Але я такой морды геройскай не нашу, як ты!

— Сволач...

— Хлопцы, хлопцы! Кінь, Алесь! Як можна? Калі мы нават у зоне будзем...

— Не хвалюйся, таварыш! Я яго зразумеў... Ёсць такія! Ім крыўдна, агідна, што іншыя разам з імі сораму не страцілі.

— Едзь... Зразумеў ён мяне... На вас, ідыётах, толькі лайдак свайго кляйма не ставіць... Героі! Што б паны ні натварылі, на героях заўсёды можна выехаць!

— Бывай! Прывітанне тваёй чорнай душы!

— Едзь... Табе жанчыну яшчэ хочацца? Калі што якое, то кліч мяне на дапамогу!

— Злы ты, Алесь...

— Адыдзі, Мацвей!

— Адыду, але ведай: каб бойка ўсчалася, я б на яго баку быў.

— Гэта тваё гора...

●

8.07.86 г.

Няма ад цябе адказу, Ларыса! Засмуціўся я. Праўда, не панікую, у зоне пошта можа заблытацца.

Навін у нас мала. Гарачыня стаіць, працаваць у гумавых касцюмах цяжка. Напэўна, і табе на маскоўскім асфальце не мёд. Ці ты ўжо загараеш на моры?

Прыязджаў тут нейкі акадэмік, казаў, што тэмпература ў рэактары паніжаецца. Можа. У нас яна, наадварот, павышаецца і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Некаторыя хлопцы і жанчыны пачалі піць, працавала нават, калі можна так сказаць, кафэ «У бабкі Адаркі». Адкуль толькі гарэлку бралі... Дзед Сцяпан сарамаціў хлопцаў, спрабаваў абараніць Адарчыну хату, а яны знайшлі, што адказаць старому. Яно праўда, трыццаць гадоў, пакуль радыяцыі паменее, бабка Адарка не здолее чакаць.

Наляцела міліцыя, прыкрыла кафэ. А потым ноччу пaймалі аднаго нашага. Васіль Цупрыка — я табе пра яго не пісаў — рабаваў хаты. Вось адкуль гарэлка.

Пішы, Ларыса!

●

Што ж, дзяды-волаты, цяпер гатовы я апошнюю справу зладзіць. Учора Мацвейка дарэмна сачыў за мной — яшчэ не было вестачкі ад дачкі. Сёння шафёр прывёз... Чуй, Таццяна, калі ты чуеш думкі мае: дачка наша будзе жыць цяпер у горадзе Гомелі, дзе твой старэйшы ўнук, Таццяна, робіць інжынерам. А малодшы вучыцца ў Оршы, можа, там і асядзе. Гомель і Орша — запамінай, дзе наш род прадоўжыцца. Добра запамінай, Таццяна, бо ляжаць мы з табой будзем блізка, а ці пагамонім, адному богу вядома.

Пара і мне на спачын, вось толькі рыдлёўку знайду...

І правільна, і няправільна я разважыў, Таццяна, калі пахаваў цябе ў Лудзькавым лесе. Каб на могілкі прывёз, то хлопцы цяпер выкапалі б магілу побач — і ўсёй бяды. Але ж не было ў мяне тады выйсця: у вёсцы звярэлі карнікі. Партызанскі камандзір загадваў далей ад дарогі магілу капаць, а я не паслухаўся. Гэта якраз правільна. Думаў: дзе куля напаткала цябе, то там ужо і ляжы, родная! Каля дарогі Мацвейка знойдзе ці свежую ямку, калі вярнуся я дахаты паміраць, ці мяне самога, калі не пусціць назад Лудзькаў лес. Мацвейка ўгавора іншых, яму я веру. І будзем мы... Ты — з куляй нямецкай, я — з радыяцыяй, пра якую ты нічога не чула, але будзем у сваёй зямлі і побач.

Вось рыдлёўка...

Прабач мне, хата... Прабач, матуля Хрысціна, прабач, бацька Марцін... Прабачце, дзядзька Федзька, бабка Аўдуля, брацельнік Міхал і вы, сёстры мае Гарпіна, Алёна і Манька... Дачка, унукі і яшчэ ўсе, каго не бачыў, але ведаю, што тут вы жылі...

О, які чорны пыл!

І табе пакланюся, Адарчына хата... Сюды некалі з лядаўскімі дзеўкамі прыйшла да нас на вячорку Таццяна, залаценькая мая...

леў верна схапіць і паказаць духоўныя пошукі сваіх герояў, іх няўстойлівы ўнутраны свет.

«На жоўтым беразе» — ігравая стужка. Хлопчык-калека становіцца вечным каменем спатыкнення ў адносінах паміж яго цалкам здаровымі бацькамі. Перанесеная ў нашы дні, чэхаўская фабула абрастае антуражам, у якім правінцыяльны ўрач ператвараецца ў афіцэра, старая купальня — у ваенны аб'ект... Некранутым застаецца толькі пытанне, што мучыць бацьку: ці верная была яму жонка? «Літаратурнасць» гэтага фільма відавочна ва ўсіх яго дэталях, у якіх абсурднасць сітуацыі падкрэсліваецца амаль што немагчымасцю існавання на экране пачуццяў людзей, што жылі ў пачатку стагоддзя. Фільм — тыповая спроба «асучасніць», уключыць у новую сістэму духоўных каштоўнасцей рэчы, не знаёмыя рэжысёрам па іх асабістаму вопыту, не перажытыя, не прапушчаныя скрозь сэрца...

Перагукаецца з фільмамі «пра любоў» на вайне «Прамень месяца» А. Фянько. Салдат (А. Фяклістаў) вярнуўся з фронту сляпым, але не ў выніку ранення: медсястра Караліна адпомсціла яму за «гашпітальнае» каханне, плюхнуўшы ў твар кіслатой. А дома жонка і маленькі сын не могуць зразумець, чым, акрамя слепаты, мучаецца франтавік. Пры ўсім уменні рэжысёра ва ўзнаўленні фактуры тых гадоў у касцюме, грыме, інтэр'ерах, у пластыцы масавых сцэн у нас узнікае пытанне, ці не версія гэта «Ваенна-палявога рамана» П. Тадароўскага, але з люстраным увасабленнем ідэй?

Супраць традыцыйных канонаў «гераічнага» фільма, што многа гадоў існаваў у рэспубліканскім кінематографе як ледзь не адзіная форма ўвасаблення тэмы вайны, выступаюць сваімі работамі В. Дзяругін і С. Шульга. Але і тут у аснове пратэста ляжыць не ўласна выпакутаваная думка, а імкненне падвесці пад інтэлектуальны аналіз духоўны вопыт мінулых гадоў. Рэжысёры, прапаноўваючы экранныя версіі літаратурных твораў (апавяданне М. Зарэцкага — фільм «На чыгунцы» і навелы А. Дударава — «Цубанікі»), усё ж аказваюцца моцна прывязанымі да культуралагічнай традыцыі. У карціне «На чыгунцы» адчуваецца даўні настрой, навеяны спачатку Р. Чухраем у «Баладзе пра салдата», а потым В. Рубінчыкам у «Чырвоным агітатары Трафіме Глушкове». У «Цубаніках» гучаць матывы «Трыбунала» А. Макаёнка, але з адваротным знакам у характарыстыцы галоўнага героя. Невыпадкова, на маю думку, абедзвюм, розным па тэме карцінам уласціва пэўная жорсткасць стылю. Бо недзе ў падсвядомасці тлее сумненне, ці ў тым кірунку вядзе цябе жаданне вырвацца з прывычнага кола. І як доказ, што ў гэтым коле цесна, а сіл, каб парваць гэтую гібкую крывую, яшчэ не накапілася, — літаральнае супадзенне ў рашэнні ключавых дзеля карцін сцэн. Ранены ў нагу Яўмен, заблукаўшы ў сырым тумане восеньскага досвітку, падае з крутога абрыву. У «Цубаніках» аглушаны жудасным першым боем малады Цубанік таксама аказваецца ў пясчаным ірве, сцены якога знізу падаюцца яму непераадольнымі. Так і застанецца з ім да канца яго кароткага жыцця гэты прывід — глыбокі роў-магіла, дзе ляжаць загінуўшыя таварышы.

І, нарэшце, у «Свяце» рэжысёр В. Таўкачыкаў міжвольна, але натуральна, завяршае гэтую своеасаблівую парабалу, што акрэслівае каардынатную прастору светапоглядных імкненняў сённяшніх маладых. Тут арыенціры маральнага адмаўлення і сацыяльнай крытыкі набываюць форму мастацкага кантрапункту. У гэтым фільме, дзе персанажы гранічна ўмоўныя, гучыць громападобная патэтычная гама з песень, якія і сёння яшчэ пануюць на «ўсенародных» святах. Жыццё ж людзей у нейкім умоўным доме ідзе сваім парадкам, удалечыні ад радаснага шуму. Маладыя, муж і жонка сярэдніх гадоў, старыя... У гэтых людзей свае праблемы, свой бег жыццёвага часу, свае радыусы жаданняў, учынкаў, страсцей. В. Таўкачыкаў спрабуе асэнсаваць чужыя духоўныя накапленні як непрымальныя для сучасніка, спрабуе вывесці чалавека з глухаты застою, пакуль толькі сродкамі чыста інтэлектуальнага пратэсту.

Гэтая своеасаблівая эзопаўская хітрасць — выявіць свае адносіны да складаных працэсаў абнаўлення масавай свядомасці праз цытаванне і рэвізію вядомых гледачу мастацкіх узораў, — ці змогуць пераадолець яе прадстаўнікі ўступаючага сёння ў кінематограф маладога пакалення? Ці змогуць яны авалодаць сапраўды свабоднымі, не залежнымі ад знешніх умоў спосабамі самавыяўлення? Ці зможа знайсці маладая рэжысура новае бачанне не толькі колішніх, але і сённяшніх праблем, тых, што яшчэ не заўважаны ёю, што знаходзяцца пакуль на перыферыі яе творчай і паэтычнай прасторы. Або без гневу і нараканняў, з прывычным прысмакам горычы застанецца яна носьбітам сярэдніх эстэтычных стэрэатыпаў, літасціва дазволеных для карыстання заслужанымі мэтрамі? Калі мы дачакаемся адказаў на гэтыя пытанні? І ад каго?..

*На музычнай сцэне*

# А СПЕВАКІ Ў НАС ЁСЦЬ!

Гартаю падборкі газетных матэрыялаў пра салістаў нашага опернага і яшчэ раз пераконваюся, што замежная прэса ўмее рабіць рэкламу не толькі рок-зоркам. «Цудоўны рускі бас, які зробіць кар'еру!», «Брыльянтавы дэбют» — кідкія загалоўкі газет. (Такія воклічы ў нас можна пабачыць хіба толькі на спартыўных старонках газет.) Пра каго яны крычаць? Ды пра нашых землякоў, салістаў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, якія амаль штовечар выходзяць да слухачоў. Яны маладыя, у іх вялікія перспектывы, свае праблемы і ўдачы.

Але што ўсё гэта значыць, калі іх толкам не ведаюць у родным горадзе, калі мала хто спыняецца каля іхніх афіш (хоць, праўду пісаў у «ЛіМе» А. Мільто, не лепшай якасці гэтыя афішы). І на што тут скардзіцца? Можа, на недахват грошай? На дэфіцыт паперы? На адсутнасць мабільнай друкарні, якая аператыўна і высакаякасна выдавала б тэатральна-канцэртную рэкламу? Не буду займаць месца доўгімі папрокамі і на адрас рэдакцый газет за сталае маўчанне наконт многіх навін музычнай прафесійнай (а не самадзейнай) культуры, скажу коратка: увагай не песцяць. А чаму б, напрыклад, не расказаць пра нядаўнія замежныя выступленні маладых салістаў ДАВТа БССР — лаўрэата ўсесаюзнага і міжнародных конкурсаў заслужанай артысткі БССР Марыі Гулегінай і лаўрэата ўсесаюзнага і міжнародных конкурсаў Міхаіла Рысава? Абодва ў тэатры з 1983 года, стала ўвайшлі ў рэпертуар, набылі папулярнасць сярод знаўцаў і аматараў оперы.

Для М. Гулегінай уся пяцігадовая праца ў тэатры — узлёт. Перамогі на конкурсах, прысваенне ганаровага звання, запрашэнне ўдзельнічаць у спектаклях міланскага «Ла Скала», тэатраў «Муніцыпале» (Рыа-дэ-Жанейра) і «Ковент-Гардэн» (Лондан). У снежні 1988-га спявачка вярнулася з Аўстрыі, куды была запрошана маэстра Гербертам фон Караянам для праслухоўвання. Няма патрэбы даводзіць, які вялікі гонар працаваць з такім майстрам — найвялікім дырыжорам сучаснасці. Паездка была ўдалая: М. Гулегіна стала рыхтаваць партыю Тоскі ў аднайменнай оперы Дж. Пучыні для ўдзелу ў спектаклі Зальцбургскай оперы, акрамя таго, яна атрымала прапанову з 1991 года пець у спектаклях Венскай оперы. 10 студзеня адміністрацыя «Ла Скала», дзе тады знаходзілася наша артыстка, адпусціла яе ў лонданскі «Ковент-Гардэн»: там адбыўся канцэрт лепшых спевакоў свету ў фонд дапамогі Арменіі.

М. Рысаў пасля ўдалага ўдзелу ў XI Усесаюзным конкурсе вакалістаў імя М. Глінкі (IV прэмія) і некалькіх сезонаў работы ў тэатры паехаў у 1987 г. на стажыроўку ў «Ла Скала». Там, «між іншым», удзельнічаў у VII Міжнародным конкурсе спевакоў у Бельгіі (атрымаў II прэмію) і ў VI Міжнародным конкурсе маладых оперных спевакоў у італьянскім горадзе Сьена, дзе заваяваў I прэмію. Акрамя гэтага, М. Рысаў быў запрошаны для ўдзелу ў фінальным канцэрце вельмі прэстыжнага XXVIII Міжнароднага конкурсу «Вердзіеўскія галасы». За год стажыроўкі ў Мілане спявак падрыхтаваў басовыя партыі ў спектаклях «Набука», «Макбет», «Сімон Баканегра», «Дон Карлас».

Неяк пасля сваёй чарговай замежнай паездкі М. Гулегіна расказвала мне пра італьянскую публіку: «Гэта дзівосная з'ява. Яны не проста слухаюць оперу ўпершыню, знаёмяцца з ёй, яны ідуць слухаць добра знаёмы твор, часцей за ўсё вядомы ім да апошняй ноты (дарэчы, чутае імі ўжо дагэтуль у выкананні складаў дваццаці). Частка гэтай публікі — багатыя, забяспечаныя меламаны, «партэр» тэатра «Ла Скала». Для іх не праблема бываць на самых прэстыжных спектаклях, ездзіць па розных краінах, каб паслухаць спевака, оперу, якія іх цікавяць. Але ў «Ла Скала» ёсць дзівосная «галёрка»! Там білеты значна таннейшыя, туды ідуць звычайныя людзі: рабочыя, служачыя, але гэта такія знаўцы! Калі «партэр» можна ашукаць, то слухачоў з галёркі — ніколі! Яны ведаюць кожнае дыханне, паўзу...»

І вось мне прыгадалася навагодняя дзіцячая тэлеперадача — праграма з Зальцбурга: Дзед Мароз віншаваў дзяцей, раздаваў падарункі, весяліў, наладжваў віктарыны. Што тут асаблівага? — спытаеце вы. Не хачу апускацца да банальных параўнанняў, але мяне гэта, нават мелькам убачанае, прымусіла задумацца. У якасці навагодняга падарунка дзецям — частка з зальцбургскай сімфоніі В. Моцарта, адно з пытанняў віктарыны — якіх нямецкіх і аўстрыйскіх кампазітараў яны ведаюць... І пяці-шасцігадовыя малыя ўпэўнена называлі І.-С. Баха, І. Гайдна, В. Моцарта. А якія сур'ёзныя тварыкі, зіхоткія вочы!..

Вядзіце сваіх дзяцей у оперны тэатр, самі смела ідзіце туды, не спяшайцеся расчароўвацца. Не бяда, калі пасля першага наведвання кагосьці больш за ўсё ўразіць багатая люстра пад столлю ці асляпляльная пазалота мармуровых сцэн. Разуменне і ўспрыманне ўмоўнасцей музычнага тэатра трэба выхоўваць, выхоўваць планамерна і цярпліва. А оперныя галасы, вартыя ўвагі і захаплення, у нас ёсць.

**Н. КУЗНЯЦОВА.**



Заслужаная артыстка БССР Марыя ГУЛЕГІНА ў ролі Аіды.



Міхаіл РЫСАЎ — кароль Філіп («Дон Карлас»).

Бывай і ты, Мікола, сябра мой! У якой зямлі сатлелі твае белыя косці... Ты і нас бараніў...

Не памінай мяне ліхам, цётка Варка! Герой у бога агонь украў, а ты ад герояў бога ратавала...

А табе не пакланюся, высокі дом! Ты забраў бярвенне, з якога продкі нашы царкву збудавалі. Тут змовы ладзіліся. Кроў людская, слёзы дзетак бязвінных нікому шчасця не прынеслі.

Вунь які ненажэрны пыл — як нідзе. Мацвейка тлумачыць, што паварот тут у машын. Так, тут заўсёды быў паварот...

Прабачце, людзі добрыя, каму слова не сказаў! Паклон вам ад апошняга тутака жыцеля. Пакідаю на бога вёску нашу.

І Лудзька некалі вось так пакідаў яе, каб адпомсціць пану за любую сваю. Эх... Аднаму адпомсціш, іншы вытыркнецца, нязводнае панскае племя.

Як гудзе лес... Чую ўжо, чую цябе, Лудзька-абаронца! Іду, Таццяна! Каб толькі Мацвейка мяне не заўважыў, божухна... Маладое, яно не разумее, што смерць прыходзіць, як збавенне. Мацвейка кажа, што мара людзей — неўміручасць. Не. Стаць неўміручым у гэтым свеце, дзе несціхана гурчаць машыны, дзе самалёты рвуць неба, дзе вісяць атамы і чорны пыл? Не, Таццяна, не...

●

13.09.86 г.

Я вырашыў напісаць табе, Ларыса! Можа, таму, што восень на дварэ, цярушыцца ўжо на асфальт жоўтае лісце. Увосень я заўсёды спакайнею, вось і цяпер падумалася: хай застанецца ўсё між намі па-добраму.

Зону стараюся не ўспамінаць, толькі зрэдку ў вушах гудзе Лудзькаў лес. Каб памёр дзед Сцяпан у сваёй хаце, відаць, не паехаў бы я туды, а калі ўжо давялося шукаць старога... Хай там ляжыць, дзе хацеў. Сосны высокія, быццам абгарэлыя... Як гуў у вершалінах вецер, так вось бывае ў маіх вушах. А-а, нічога.

Напэўна, я больш злаваў бы на тваё замужжа, каб не аварыя. Ты і без таго маладзейшая за мяне, а ў Лудзькавым лесе я яшчэ пастарэў. Разумееш... Дзед Сцяпан і пасля смерці захацеў быць побач з жонкай...

Я нават добра стаўлюся да твайго замужжа, Ларыса. Праўда. Калі няма ў цэнтры сусвету бога, то нельга туды пхаць ні эвалюцыю, ні прывідную мару пра светлае будучае чалавецтва. Ніхто не можа патрабаваць ад сённяшніх людзей подзвігаў для будучага, хай кожны вырашае гэта сам для сябе. Заўтрашняе святло між людзьмі не нараджаецца з сённяшняй цемры. У цэнтры сусвету стаіць сённяшняе шчасце і нічога іншага там няма... Я думаю, што пайшла ты замуж не таму, што гора захацела. Як сэрца падказвае, так і добра. Не ведаю, якое шчасце даў бы табе я. Калі шчыра прызнацца, то не толькі ў вушах гудзе, часцяком яшчэ страшэнна баліць галава. Хто ўгадае, які цяпер мой лёс, як яно ўсё станецца на Беларусі...

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Новы сімфанічны

**Быць або не быць сімфанічнаму аркестру ў Гомелі? Адказам на гэтае пытанне сталіся бурныя воплескі на канцэрце, наладжаным у вялікай зале музычнага вучылішча імя Н. Сакалоўскага. Тут адбыўся дэбют сімфанічнага аркестра, створанага пры Гомельскім абласным аддзяленні Музычнага таварыства БССР.**

**У складзе аркестра — музыканты - прафесіяналы, горача ўлюбёныя ў музыку: выкладчыкі ДМШ і музычнага вучылішча, сярэдніх школ музычнага профілю, выпускнікі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і іншых кансерваторый краіны. За пульт галоўнага дырыжора стаў Валянцін Краўцоў, музыкант вялікай эрудыцыі, выпускнік БДК па класе оперна-сімфанічнага дырыжыравання, выкладчык Гомельскага музычнага вучылішча.**

**У праграму канцэрта ўвайшла папулярная музыка еўрапейскіх кампазітараў, руская і савецкая класіка, песні беларускіх аўтараў. Цёпла сустрэлі слухачы выкананне першай часткі Другога канцэрта для фартэпіяна з аркестрам С. Рахманінава (салістка Ларыса Мальцава). Чатыры фрагменты з балета «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага — «Адажыо», «Танец маленькіх лебедзяў», «Неапалітанскі танец», «Вальс» — прагучалі грацыёзна, лёгка і не перапыняліся недарэчнымі апладысментамі пасля кожнага нумара, што само па сабе гаворыць пра ўзровень слухацкай культуры. Знаёмая з маленства Уверцюра з кінафільма «Дзеці капітана Гранта» І. Дунаеўскага прагучала па-юнацку адкрыта і свежа. Спявалі ў суправаджэнні аркестра салісты Гомельскай абласной філармоніі Г. Паўлёнак і Л. Шугалей. Быў для гамяльчан і музычны сюрпрыз: выкананне сюіты «Мелодыі свету» польскага кампазітара Э. Чэрны, складзенай з папулярных эстрадных песень 70—80-х гадоў.**

**Пасля канцэрта прывітальнае слова аркестру сказаў старшыня праўлення Музычнага таварыства БССР народны артыст рэспублікі Міхась Дрынеўскі.**

**З днём нараджэння цябе, Гомельскі сімфанічны!**

**В. БОКАВА,**
**музыказнаўца,**
**выкладчыца**
**Гомельскага музычнага**
**вучылішча імя**
**Н. Сакалоўскага.**

## На карысць народаў-братоў

**У Літве створана Грамадскае таварыства беларускай культуры. Ягоныя мэты — актывізацыя грамадскага і культурнага жыцця беларусаў, што жывуць у межах Літоўскай ССР, захаванне і развіццё ў Літве беларускіх культурных традыцый і беларускай мовы, а таксама дапамога беларусам у больш дасканалым асваенні літоўскай мовы.**

**Таварыства плануе ладзіць сустрэчы і лекцыі, выстаўкі і экспедыцыі, збіраць гістарычныя і краязнаўчыя звесткі, захоўваць і даследаваць іх; выяўляць і сістэматызаваць помнікі беларускай гісторыі і культуры на тэрыторыі Літвы; ствараць музейныя, архіўныя, бібліятэчныя фонды, даступныя для шырокай грамадскасці.**

**НАШ КАР.**

## З паэтычнай пошты

**Серафіма БЕСТАВА**

### Матулі

Шчакой трывожна прытулюся
Да здымка бацькі на сцяне.
Пад цяжкай ношкай не хіснуся —
Пакуль ёсць мама у мяне.

Калі пагляд яе не ў скрусе,
Ў душы маёй растане снег.
Ніякай сцюжы не збаюся —
Пакуль ёсць мама у мяне.

Яе спагадай прычашчуся,
Любая крыўда абміне.
Нат бюракратаў не баюся —
Пакуль ёсць мама у мяне.

### Парада

Я помню, як часта мне раіла мама:
«Чужую бяду, як сваю, ты бядуй.
Не цяжка нам беды разводзіць рукамі,
Ты сэрцам адводзіць бяду паспрабуй»...

Цяпер і сама я дачцэ сваёй раю:
«Спагаднаю будзь і чулліваю будзь.
У добрых людзей чужых бед не бывае.
Ты гэту навуку, дачка, не забудзь».

**Святлана КАРОБКІНА**

●

Гром прагрымеў, але дажджу не будзе, —
Заблытаў хмары вецер, разарваў...
І весялей пад сонцам ходзяць людзі,
Збіраюць бубкі ягад, кветкі траў.
Лятаюць матылькі, спяваюць птушкі,
З прыродаю зліваецца душа,
Забыўшыся, што нехта ёсць бяздушны,
Хто аб вантробах думае спярша.
Хто аб сабе клапоціцца надзвычай:
Дзе можа, — там хапае і нясе,
Не памятаючы аб вадзе крынічнай.
Аб вёсцы, скуль дагэтуль сокі ссе.
Аб моладзі, якая падрастае.
І думае, — за кім у свет ісці?
Аб хмары, што, бывае, павяртае
Назад, каб штосьзьначыць у жыцці...

●

Жыта красуе, бульба цвіце,
Лес у маліны кліча дзяцей,
Мама у кошык збірае гуркі,
Абклёўваюць спелыя вішні шпакі.
У пацерках ягад парэчак кусты,
Галінкі агрэст навастрыў — як драты.
У парасончыках кветак наш кроп,
Стручкі маладыя завязвае боб,
Вусікі цягне ў неба гарох.
Як тут мне хораша пасля дарог —
Водарам лета паўнюткая я.
— Дзякуй за шчодрасць, за ласку, зямля!

●

Кастрыцу кастрычнік на беразе слаў,
Росы выбельвалі лён ручніка...
Кветкі чырвоныя, лецейка, стаў,
Тыя, што выраслі ля ручайка...
Тыя, дзівосныя, што на любоў.
Звязвай маністачку, чэрвень, тужэй.
Хай жа пялёсткі гараць, нібы кроў,
Хай жа цвітуць — на каханне даўжэй.
Пацеркі, жнівень, мае не парві,
Хай аж да верасня песня плыве,
Тая, што май запаліў у крыві,
Тая, што любага кліча-заве...
Не пакаціся, як росы, сляза,
Ружа, пялёсткі не ссып на ручнік,
Хай твае кветкі цалуе раса...
Срэбрам карункі залі, маладзік!

---

**Часам нічым асабліва не адметная для гледача выстаўка застаецца ў гісторыі культуры як этапная падзея. Яна нібыта падводзіць рысу пэўнага перыяду. Пасля яе ўсё будзе ўжо не так, як было раней. Думаю, падобным чынам будзе ўспрымацца з цягам часу і серыя рэспубліканскіх выставак, якая распачалася ў Палацы мастацтваў леташняй вясною і доўжылася да сярэдзіны лютага гэтага года.**

**Спачатку гледачы пазнаёміліся з творамі мастакоў-манументалістаў. Іх выстаўка прысвячалася 70-й гадавіне ленінскага плана манументальнай прапаганды. Потым былі экспазіцыі жывапісу, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. А на апошнім этапе гэтага беспрэцэдэнтнага для рэспублікі выставачнага «марафона» ў ім бралі ўдзел графіка і скульптура. Усе гэтыя экспазіцыі, акрамя скульптурнай, асвятляліся на старонках «ЛіМа». Такім чынам. сёння, звяртаючыся да праблем беларускай пластыкі, мы, так бы мовіць, закрываем тэму.**

# ПАТРАБУЕЦЦА ЛІДЭР

**Пасля выставачнага «марафона»**

СЕРЫЯ ВЫСТАВАК не выявіла новых імёнаў і не акрэсліла новых мастацкіх кірункаў. Нечаканасцей не было. Выстаўкі толькі пацвердзілі тую акалічнасць, што афіцыйная «табель аб рангах» Саюза мастакоў Беларусі далёка не заўсёды адпавядае сапраўднаму раскладу сіл, што ганаровыя званні на этыкетцы твора — зусім неабавязкова эквівалент мастакоўскага «знака якасці». Каб адчуць па творах высокі клас адных мастакоў, патэнцыяльныя магчымасці другіх і непахісную вернасць кан'юнктуры трэціх, не трэба мець спецыяльнай адукацыі, хопіць здаровага густу. Але ж усё гэта было і на іншых рэспубліканскіх «справаздачах». Дык што ж робіць серыю выставак да юбілеяў рэспублікі і Саюза мастакоў Беларусі (так ужо супала) этапнай з'явай?

На маю думку, тое, што ўпершыню, мабыць, на «афіцыйным» мерапрыемстве, якім гэтыя выстаўкі былі, так яскрава выявілася палярызацыя мастакоўскіх сіл рэспублікі. Супрацьстаянне «нефармалы — саюз» з'ява на сённяшні дзень натуральная і ўжо звыклая. А вось творчая канфрантацыя ў «маналітным» СМ БССР — гэта нешта новае. Падкрэсліваю — творчая, яе не трэба блытаць са спрэчкамі пры размеркаванні заказаў і ў часе работы закупачнай камісіі.

**Палярызацыя выявілася ў стаўленні да тых перамен, якія хоць і марудна, але адбываюцца ў грамадскім жыцці краіны, да пераасэнсавання культурнай і гістарычнай спадчыны мінулага. Гаворка ідзе не толькі пра творы «перабудовачнай тэматыкі». Гэта не паказчык. Можна не сумнявацца, што той, хто ўчора заўзята ўхваляў у сваіх палотнах, графічных аркушах і скульптурах «вялікія пераломы», сёння ці не першы зоймецца мастацкім увасабленнем «трагічных перагібаў». На жаль, няма такой святыні, на якую рана ці позна не зрабілі б набегу кан'юнктуршчыкі. Асаблівасць сённяшняга дня ў іншым: цяжэй стала развешваць ярлыкі (накшталт «нацыяналіст», «фармаліст» і гэтак далей), і сваю правату ўсё часцей даводзіцца даказваць творчасцю. Маляваць жа карціны ці працаваць за каменем, як вядома, цяжэй, чым беспакарана ганіць апанента з трыбуны.**

**Сёння пакрысе ствараюцца ўмовы (хочацца думаць, што гэты працэс не будзе спынены), калі «рэаліст» і «фармаліст», «нацыяналіст» і «інтэр...» будуць змагацца не паміж сабою, а за гледача. Шкада толькі, што сёння ў сяго-таго ўзнікае спакуса звесці праз «плюралізм» асабістыя рахункі, запісаць у «рэтраграды» (альбо нават і ў «ворагі перабудовы») тых, хто ў застойныя часы сваёй творчасцю аб'ектыўна працаваў на ўздым грамадскай свядомасці. Менавіта так я ацэньваю нядаўнюю кампанію ў СМ БССР супраць М. Савіцкага (прытым, што я далёка не самы заўзяты прыхільнік ягонай творчасці і многае са зробленага мастаком успрымаю ў крытычным святле).**

АДНАК ВЕРНЕМСЯ да выставачнага «марафона». У ім было творчае спаборніцтва, глядач мог параўноўваць не толькі розныя почыркі, але і розныя ідэі. Гэта—галоўнае.



А. ГРУБЭ. «Лірнік». 1972 (аўтарскі паўтор работы 1926 г.).



А. АНІКЕЙЧЫК. «За гонар музы». 1987.



В. ЯНУШКЕВІЧ. «Адам Міцкевіч». 1988.

Добрае ўражанне пакінула сумесная экспазіцыя графікі і скульптуры. Чамусьці скульптура і графіка побач заўжды глядзяцца лепш, чым, да прыкладу, скульптура і жывапіс, скульптура і кераміка (тут і зблытаць можна, што дзе) ці іншыя віды дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Відаць, на гэтай выстаўцы спрацаваў эфект кантрасту, узаемадапаўнення — лёгкасці і важкасці, лініі і масы, плоскасці і аб'ёму. У той жа час графіка для скульптуры была фонам не вельмі выгодным. Бо на Беларусі графіка і скульптура знаходзяцца на розных якасных полюсах. Я кажу не пра асобных мастакоў, не пра унікальныя творы, а пра той «сярэдні ўзровень», які і стварае агульнае ўражанне, эстэтычны фон жыцця. Калі беларускую графіку смела можна везці за межы рэспублікі, дык беларускую скульптуру іншы раз сорамна выносіць за межы майстэрні. І думаецца, што ніякія намаганні асобных майстроў прарвацца ў сучаснасць не будуць мець поспеху пры існуючай дагаворнай сістэме, фактычна — падпарадкаванні мастацтва прымітыўна зразуметаму «сацыяльнаму заказу».

Тое, што скульптура — від мастацтва адносна кансерватыўны, агульнавядома. Нават інструментарый скульптара за апошнюю тысячу гадоў амаль што не змяніўся. Праца гэтая ў такой жа ступені разумовая, як і фізічная. А ў рэшце рэшт канчатковы вынік (асабліва, калі гаворка ідзе пра манументальныя аб'екты) залежыць ад майстра, які пераводзіць гліняную ці гіпсавую мадэль у бронзу.

«Шукаць», эксперыментаваць у камені ці бронзе цяжэй, чым на палатне ці на гравёрнай дошцы (хай даруюць мне графікі і жывапісцы). Увогуле, працаваць «для душы» скульптару вельмі стратна, далёка не кожны можа дазволіць сабе такую раскошу. Нават станковыя работы часта робяцца з прыцэлам на манументальны заказ, як падрыхтоўчы матэрыял для будучага помніка, мемарыяльнага знака ці манументальна-дэкаратыўнага аздаблення. Адпаведна не толькі ў «сацыяльным заказе», але і ў «свабоднай творчасці» скульптар падсвядома (а хто і свядома) арыентуецца на густ і культурны ўзровень заказчыка. Так бы мовіць, абмяжоўвае сваю здольнасць думаць — здольнасцю заказчыка разумець.

Такім чынам, крызіс беларускай пластыкі мае не толькі і не столькі культурныя, як сацыяльна-палітычныя карані. Нездарма ў 70-я гады высокі аўтарытэт у краіне (і за мяжою) заваявала грузінская манументальная пластыка, а сярэдзіна 80-х адзначана высокімі дасягненнямі скульптараў Эстоніі. Тут простая сувязь паміж узроўнем нацыянальнай свядомасці, разняволенасцю грамадскай думкі і культурнымі дасягненнямі нацыі.

Міжволі я параўноўваю тое, што бачыў у Палацы мастацтваў, з творамі маладых мастакоў Прыбалтыкі на леташняй рэгіянальнай выстаўцы «Яўністэ-88» у вільнюскім Палацы выставак. Думаю, мала што з мінскай экспазіцыі можна было б паставіць упоравень з творамі нашых суседзяў, не рызыкуючы пры гэтым страціць у іх вачах і без таго не надта высокі аўтарытэт беларускай скульптуры. Але сёе-тое вылучыць для такой вандроўкі можна. Гэта работы Л. Гумілеўскага, В. Янушкевіча, С. Гарбуновай, С. Бандарэнкі, В. Антановіча, А. Фінскага і некаторых іншых. Іх пластыка хоць і даволі традыцыйная, але мае самабытныя рысы (што, дарэчы, не заўсёды сустрэнеш у прыхільнікаў абстрактнай формы). На маю думку, няўменне беларускіх скульптараў працаваць з абстрактнай формай тлумачыцца менавіта кепскім разуменнем формы рэальнай. Іншы раз стылізацыя выконвае ў скульптуры адзіную функцыю — схаваць «непісьменнасць» аўтара, яго нізкі прафесіяналізм. Яшчэ можна прыкрыцца «надзённай тэмай», як гэта робіць, напрыклад, І. Міско, які ўжо шмат гадоў запар робіць аднатыпныя галовы касманаўтаў. Работ і «стылізатарскіх», і «надзённа-тэматычных» на выстаўцы было шмат. Толькі гэта той выпадак, калі колькасць не можа перайсці ў якасць.

**Выстаўка ў Палацы мастацтваў супала з выстаўкай конкурсных праектаў на помнік барацьбітам за Савецкую ўладу для Кастрычніцкай плошчы. Вынікі конкурсу не менш, чым рэспубліканская экспазіцыя, характарызуюць узровень культуры дырэктыўных інстанцый і моц кан'юнктуры. Нягледзячы на вынікі грамадскага абмеркавання, дзе лепшым быў названы праект пад нумарам 13; насуперак умовам конкурсу, якія прадугледжваюць узвядзенне помніка менавіта на Кастрычніцкай плошчы, першае месца і права ў далейшай распрацоўцы генерыраваць (запазычваць?) ідэі, закладзеныя ў іншых конкурсных праектах, было прысуджана кампазіцыі (аб яе мастацкіх якасцях я прамаўчу, бо гаварыць пра гэта немагчыма), якую плануецца пабудаваць... на плошчы Свабоды, у запаведнай зоне Верхняга горада. Такім чынам, у метрабудаўцаў у справе разбурэння Верхняга горада з'явіліся «калегі»...**

РАБОТА рэспубліканскай выстаўкі была азмрочана жалобай. Памёр Анатоль Анікейчык. Гэтая выстаўка стала для яго апошняй прыжыццёвай і першай пасмяротнай. Можа, калі-небудзь гісторыкі мастацтва ці спецыялісты-псіхолагі растлумачаць, чаму, даведаўшыся пра смерць Анікейчыка, людзі, якіх нельга назваць ягонымі сябрамі, хапаліся за сэрца і казалі: «Не можа быць!» Чаму на ягонае пахаванне прыйшлі тыя, каго сабраць разам увогуле немагчыма...

Анатоль Анікейчык — гэта эпоха, якая ўмяшчае ў сабе гігантаманію «Прарыву» і адухоўленую бронзу помнікаў Купалу, пранікнёны трагізм пушкінскага цыкла і агітацыйную прасталінейнасць «Нараджэння рэвалюцыі»... Супярэчлівы мастак супярэчлівага часу. Мне здаецца, што пушкінскі цыкл павінен быў стаць пачаткам новага этапу ў творчасці майстра. Ён абавязкова яшчэ звярнуўся б да вобразаў Скарыны, Кастуся... Зробленае Анікейчыкам можна ацэньваць па-рознаму (у любым выпадку гэта ацэнка не можа быць адназначнай). У беларускай скульптуры ёсць мастакі не менш таленавітыя, але менавіта ён быў сапраўдным лідэрам. Хто мог бы сёння заняць гэтае месца? Можа, нехта з маладых скульптараў, што неслі труну Анатоля Анікейчыка...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Тайста СУМАНЕН**

●

— Куды ты ідзеш, чалавек?
Перад табою бяздонне,
чорнае нібы смерць.
— Што робіш ты, чалавек?
З халоднага чэрава камянёў
не ўзыдуць твае зярняты.
— На што спадзяешся ты,
чалавек?
Паходня твая пагасне
і яшчэ непраглядней зробіцца
ноч.

А чалавек ішоў,
сеяў свае зярняты,
асвятляў паходняю цемру,
трымаўся сваёй дарогі,
таму што ён — Чалавек.

●

Вайна — мінёр падступны
кашчавымі пальцамі
голаду й холаду
пад нас, дзяцей той пары,
падкпала злавесныя міны —
будучыя хваробы,
іх захавала глыбока,
нібыта азіміну ў полі.
А потым праз гады,
калі жыццё квітнее,
яны ўзрываюцца раптам
грымотамі з яснага неба
і могуць нават забіць,
ці назаўжды калекам
пакінуць.

Хлопчык маленькі ў мяне
запытаўся:
«Цябе паранілі на вайне?»

**Армас ХІЙРЫ**

●

Час не нараджаецца.
Нараджаюцца людзі,
гарады
і планеты.

Час не старэе.
Старэюць планеты,
гарады
і людзі.

●

Жыццё маё —
ледзяная гара,
якая зверху
штодня
растае паступова.

А знізу расце
і растае таксама,
але нябачна.

●

Запоўнены
працаю дзень,
як дынамітам
снарад.

А зоркі ўначы за акном —
гэтага дня асколкі.

І сон кароткі,
нібы жыццё.

**Матці НІЙРАЛА**

●

Жыцця
чалавечыя кроплі!
Каханне і болю
кроплі.
Яны ў хлебе нашым
і ў нашай барацьбе.
Яны ў тых хвілінах,
што праводзім
адны ці ўдвох,
ці ў тысячным натоўпе.
Жыцця й прыгажосці гаркавыя
кроплі!

Нібыта крыламі птушкі
заўтрашні дзень кранаюць.

ву пад абарону дзяржавы, рабіць яе дзяржаўнай —зрэшты не рабіць, а аднаўляць у дзяржаўным статусе, які яна мела да 1937 года. Вось тады, калі беларуская мова стане рабочай ад брыгады калгаса, завода і да ЦК, урада рэспублікі, у нас усталюецца не ўяўнае, а сапраўднае двухмоўе. Да ўсяго гэтага варта паклапаціцца і пра прадстаўнікоў іншых нацый, каб яны, авалодваючы беларускай, удасканальваючы валоданне рускай мовай, па жаданню маглі задавальняць свае духоўныя інтарэсы і на сваёй роднай мове. У сувязі з вышэйсказаным ёсць адзін вельмі трывожны сігнал: той-сёй з нашага кіраўніцтва, хочучы ўсё ж першым трапіць у камунізм, выношвае ідэю замацаваць у Канстытуцыі БССР дзяржаўнасць беларускай і рускай моў. Знешне гэта нібы нармальна, а на справе гэта ва ўмовах нашай рэспублікі замацуе тое негатыўнае становішча, што ёсць цяпер. Дзяржаўнай мовай рэспублікі павінна быць мова карэнных яе жыхароў, а руская мова — мовай міжнацыянальных зносін, тым, чым яна з'яўляецца ўжо даўно. Як ні дзіўна, дзяржаўнасці беларускай мовы баяцца не дзеячы рускай культуры, простыя рускія людзі, а найперш — нашы «інтэрнацыяналізаваныя» беларусы.

Які стан рэчаў атрымліваецца з пушчанага на самацёк «волевыяўлення» ў адносінах да нацыянальнага, можна, напрыклад, добра адчуць па нашым кіно. Не толькі ў Саюзе, але і ва ўсім свеце прызнаюць: ёсць, скажам, грузінскае, літоўскае кіно, але ці можам мы ўсур'ёз гаварыць, што ёсць беларускае кіно як з'ява? Ці можам мы па прадукцыі «Беларусьфільма» уявіць гістарычныя падзеі на беларускай зямлі з сівой даўніны да нашых дзён, гістарычных асоб (палкаводцаў, вучоных, дзеячаў культуры, рэвалюцыянераў), сялян, рабочых, купцоў? Ці адчуе глядач тып, характар, побыт беларуса, яго духоўны свет? Ці ўбачыць яго сапраўднае жытло, мастацтва?

На вялікі жаль, не ўявіць, не адчуе, не ўбачыць. Нават па экранізаваных творах нашых класікаў, бо на экране хутчэй узнікне вобраз, тып пецярбургскага мешчаніна, сібірскага купца альбо адзічэлага абарыгена з нейкага далёкага вострава (а ў кінастужках на сучасную тэму—вобраз нейкага ўсярэдненага савецкага насельніка), але не вобраз і не тып чалавека з нашага краю. Зрэшты, было б нават дзіва, каб такое было, каб з такой няпростай задачай справіліся гастралёрныя сцэнарысты і акцёры амаль з усіх куткоў краіны!..

«...нарэшце ёсць пытанні развіцця мовы, культуры, нацыянальнай сімволікі, для нас яны не абыякавыя,— падкрэсліў летась на лістападаўскім пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў. — Ёсць, напрыклад, народ, які налічвае 6 тысяч чалавек, са сваёй мовай, культурай, гісторыяй. Мы што, павінны дапусціць, каб гэты народ і яго мова зніклі? Будзе вельмі вялікай памылкай, нават злачынствам, калі пачнуць знікаць народнасці, калі ўсё будзе згладжвацца. Не, мы прыйдзем да ўмацавання нашай федэратыўнай дзяржавы на аснове далейшага росквіту ўсіх нацый і культур».

Як пераканаліся, у адносінах да беларускай мовы, як ні да адной мовы СССР, было шмат памылак, дык цяпер нельга дапусціць і злачынства. Думаецца, адна з прычын таго, што ў нас так марудна і нязначна мяняецца штосьці ў сферы ідэалогіі, культуры, у прыватнасці ў адносінах да беларускай мовы, гэта тое, што ўсё яшчэ не мяняе былых сваіх адносін наш апарат, што ў яго галаве нібы навечна заселі такія паняцці, як «слияние языков и культур», «вторичность культуры», а таксама няправільна, з ілжыва марксісцкіх пазіцый засвоеныя ўяўленні пра інтэрнацыяналізм, пад якім разумеецца пагалоўнае знішчэнне нацыянальнага. І яшчэ ёсць адзін нюанс. Часамі складваецца ўражанне, што ў нашым апараце проста няма ці вельмі мала тых, хто здольны навукова, чуйна разабрацца з такімі тонкімі пачуццямі, як нацыянальнае, выпрацаваць у гэтым накірунку здаровую партыйную тактыку і стратэгію. Уявіце сабе: у беларускай рэспубліканскай партарганізацыі сярод першых сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі каля 96 працэнтаў, як мы кажам, тэхнакратаў. Нават больш — вышэйшую ідэалагічную і культурную сферы рэспублікі таксама ўзначальваюць не гуманітарыі і не грамадазнаўцы.

Ніхто не скажа, што сярод гэтых таварышаў няма талковых людзей — так, ёсць і нямала, многія з іх сапраўдныя камандзіры прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, але ці шмат тых, хто як след ведае беларускую мову, культуру, гісторыю, навуку партыйнага будаўніцтва, ленінскай нацыянальнай палітыкі, мае педагагічныя і псіхалагічныя навыкі работы з людзьмі, адным словам, можа быць палітычным кіраўніком ленінскага тыпу?; ці не ператварылася большасць парткіраўнікоў, ідэолагаў таксама, у гаспадарнікаў?

У апошнія гады асабіста я не чытаў ніводнага сур'ёзнага артыкула, не чуў ніводнага выступлення па радыё ці тэлебачанні нашага ідэолага любога рангу, які не даваў бы звыклыя гаспадарчыя справаздачы, а генерыраваў бы новыя палітычныя ідэі, даваў ацэнку пэўным з'явам у жыцці грамадства, імкнуўся на кантакт з тымі, каго варта паслухаць і падтрымаць. Нават у праўдзінскім артыкуле першага сакратара ЦК КПБ, прысвечаным 70-годдзю нашай рэспублікі і яе Кампартыі, пра ідэалогію і культуру было сказана толькі мімаходзь, асноўная ўвага была скіравана на планы, паказчыкі — справы найперш гаспадарчага накірунку.

Вышэйназваная тэхнакратычная аднабаковасць, між іншым, уплывае не толькі на культуру, яна ўплывае і на грамадскую, палітычную навуку. Хочацца ці не хочацца, але трэба прызнацца, што ў рэспубліцы няма сур'ёзных прац з глыбокім асэнсаваннем асноўных этапаў развіцця сацыялістычнага грамадства, на нізкім тэарэтычным узроўні распрацоўваюцца найважнейшыя пытанні развіцця краіны і рэспублікі, цьмяна, а то і абязлічана выпрацоўваецца ідэалогія перабудовы ва ўмовах рэспублікі, па-старому, часамі зусім прымітыўна вядзецца палітычная і арганізатарская работа ў масах — усё тое, што, згодна XIX Усесаюзнай партканферэнцыі, найперш павінна быць у полі зроку КПСС, яе ідэалагічнай дзейнасці.

Што датычыць нас, «простых людзей» — рабочых, сялян, інтэлігенцыі,— то тут усё акрэсленей і гучней падаецца голас за аднаўленне справядлівасці, за большую ўвагу да жыцця, духоўных запатрабаванняў нашага народа. Што датычыць «уладных», то тут, здаецца, усё складаней. Во ўмовах рэспублікі апошнія схільны мала што мяняць, плаваюць, як рыба ў вадзе, у звыклай, прымальнай для іх атмасферы і не абцяжарваюць сябе тым, што дагэтуль яны недаацэньвалі, а то і свядома зводзілі са свету.

Як адчуваецца, наш апарат не ўвязнуў у кланавых сувязях, у карупцыі, як апараты ў некаторых іншых рэспубліках, але, усё роўна, ва ўмовах перабудовы павінен абнавіцца.

Калі мы ўсе разам, як хочуць цяпер здаровыя сілы партыі, здзейснім дэмантаж Адміністрацыйнай Сістэмы, зробім наша жыццё дэмакратычным, галосным, у поўным сэнсе канстытуцыйным, то на справе даб'ёмся тых змен, якіх зачакаліся.

# Вера Сямёнаўна ПАЛТАРАН

28 сакавіка 1989 года пасля цяжкай працяглай хваробы памерла вядомая беларуская пісьменніца, заслужаны работнік культуры Беларускай ССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Вера Палтаран (Вера Сямёнаўна Ляпеская).

Вера Палтаран нарадзілася 28 сакавіка 1919 года ў вёсцы Бабунічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучылася ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. У 1945 годзе скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працавала ў рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», дваццаць гадоў — рэдактарам аддзела крытыкі часопіса «Маладосць», пасля загадвала рэдакцыяй крытыкі і драматургіі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

У друку Вера Палтаран пачала выступаць з 1949 года. За зборнік «Ключы ад Сезама» і нарыс «Дзівасіл» ёй прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя П. М. Лепяшынскага. Адметная рыса глыбока чалавечнай творчасці пісьменніцы — беззапаветная любоў да роднай зямлі і тых, хто на ёй працуе, асабліва да руплівай беларускай жанчыны. Асноўная тэма нарысаў пісьменніцы — жыццё вёскі, яе побыт і праблемы. Яна апавядае пра людзей цікавых і добрых, улюбёных у свой край, няўрымслівых, паказвае тыя вялікія змены, што адбыліся на Палессі за гады Савецкай улады.

Шмат сіл і часу аддавала Вера Палтаран выхаванню творчай моладзі, актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці пісьменніцкай арганізацыі. Яна была абрана членам рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў БССР, з'яўлялася членам рэдсавета выдавецтва «Мастацкая літаратура». За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і актыўную грамадскую работу пісьменніцы было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларускай ССР.

Светлы вобраз Веры Палтаран, чалавека чулай душы, шчырай працаўніцы, назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто яе ведаў.

**В. А. Пячэннікаў, Н. М. Мазай, С. Я. Паўлаў, А. І. Бутэвіч, М. І. Дзялец, Я. І. Скурко (Максім Танк), К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), С. А. Андраюк, В. У. Адамчык, Р. І. Барадулін, І. А. Брыль, Г. М. Бураўкін, В. У. Быкаў, А. І. Вярцінскі, Н. С. Гілевіч, А. С. Грачанікаў, А. А. Жук, С. І. Законнікаў, В. В. Зуёнак, В. А.Казько, У. А. Калеснік, Ц. В. Крысько (Васіль Вітка), А. П. Кудравец, А. А. Каратай (Максім Лужанін), І. Я. Навуменка, У. П. Някляеў, П. Е. Панчанка, Н. Е. Пашкевіч, І. М. Пташнікаў, Б. І. Сачанка, І. Д. Сіпакоў, І. Г. Чыгрынаў, І. П. Шамякін, Г. П. Пашкоў, А. Х. Асіпенка, М. М. Барсток, А. С. Васілевіч, У. М. Юрэвіч.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага, заслужанага работніка культуры БССР Веры Палтаран (Ляпескай Веры Сямёнаўны) і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Калектыў супрацоўнікаў часопіса «Маладосць» смуткуе з прычыны смерці былой супрацоўніцы, заслужанага дзеяча культуры, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага Палтаран Веры Сямёнаўны і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

**Калектыў выдавецтва «Мастацкая літаратура» глыбока смуткуе з прычыны смерці былой загадчыцы рэдакцыі крытыкі, драматургіі і літаратуразнаўства, заслужанага работніка культуры БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя П. М. Лепяшынскага, пісьменніцы Веры Сямёнаўны Палтаран і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.**

# «СУЧАСНІК-88»

Штогоднік «Сучаснік-88» працягвае гаворку аб надзённых праблемах эканамічнага, сацыяльнага і культурнага жыцця. Запеўкай да гэтай гаворкі стаў верш П. Панчанкі «Непрымірымасць».

У раздзеле «Шляхамі паскарэння і перабудовы» выступаюць М. Матукоўскі і Э. Ганзальез — «У Доме ўрада» («Лісты з Савета Міністраў Беларусі»), М. Сердзюкоў — «Дзяржпрыёмка на трактарным», В. Супрунчук — «Не на асфальце спее хлеб...»

Розныя аспекты развіцця літаратуры і жыцця закранаюцца ў гутарцы В. Шырко з Кандратам Крапівой — «З думай аб жыццёвай праўдзе...»

З'явіўся ў штогодніку раздзел «Публіцысты «Звязды» — госці «Сучасніка». Апублікаваны тут нарысы «Кветкі Марыі Чуманіхінай» Н. Жалязоўскай, «Урокі Ларына» У. Наркевіча, «Вымова за прынцыповасць» І. Росліна, «Горкая ягада-каліна» У. Глушакова, «Атрута» С. Булацкага...

У раздзеле «Чалавек і экалогія» — артыкулы М. Шыманскага «Урокі Салігорска» і А. Петрашкевіча «Непазбытая горыч» — трывожны роздум пра экалагічнае становішча на Салігоршчыне. Лёс Нарачы непакоіць В. Лапціка («Шчымлівая спадчына»)...

У традыцыйным раздзеле «З народных крыніц» — расказ С. Панізніка пра народнага самародка М. Верацілу і гутарка з ім («Адкуль бяруцца самародкі?»), слова У. Ягоўдзіка пра вядомую самадзейную мастачку («Дзівосны свет Алены Кіш»), верш Г. Пашкова «Скажы: «Беларусь...»).

Пра пошукі беларускіх вучоных расказвае А. Шагун у артыкуле «Людзі і лазеры».

Выступленні В. Быкава («Пытанні, якія чакаюць адказу») і М. Карпенкі («Сляза і кветка») склалі раздзел «Памяць».

В. Мыслівец друкуе нататкі «Клайпедскія рыбакі», Л. Дранько-Майсюк — «На радзіме Ціля Уленшпігеля».

С. ВІРЗОЎСКІ.

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Сцяпану Лаўшуку з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.**

